PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 38 (1949) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 19 ВЕРАСНЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

## ВОЗЕРА СЛЁЗ

Калі ў канцы 80-х гадоў канчалі пабудову вадасховішча ў Семяноўцы, у мясцовай і цэнтральнай прэсе густа было тады ад слоў захаплення. Стваральнікаў раю на зямлі некалькі разоў паказвалі таксама па тэлебачанні. Чаго там не гаварылі — запас вады для Беластока, турыстычная база, ахова каштоўнасцяў прыроды, а людзям, якім забралі і залілі дамы і палеткі мелі быць забяспечаны камфартабельныя ўмовы жыцця на старасць. Няма ўжо вёсак Боўтрыкі, Рудня, Лука, Буды, Гарбары. Іх жыхароў перасялілі ў тры- і чатырохпавярховыя блёкі напрыканцы мінулай дэкады. Зімой 1991 г. паказвалі ў тэлебачанні нейкі дакументальны фільм, дзе здымаліся „шчаслівыя" перасяленцы. У бетонных кватэрах з вялікі вокнамі пілі яны гарэлку, спявалі калядныя песні і дзякавалі ўладам за свой лёс. Паказвалі ў фільме нейкіх мясцовых абарыгенаў, задаволеных бліскучымі клеткамі, у якія іх паўпіхалі.

Недзе ў палове жніўня г.г. удалося мне вырвацца з затухлага Беластока на „Семяноўскае возера". Краявід не надта заахвочваў затрымацца там на даўжэй — нейкі штучны, ненатуральны. Вада таксама не надта чыстая — зялёная ды перапоўнена неперагнілымі да канца астаткамі затопленых вёсак. Праўда, можна купацца, але ў ваду ідзеш без энтузіязму. Было шмат часу, каб падацца на маленькую экскурсію.

У ваколіцы найбольш прыцягваюць увагу тыя шматпавярховыя будынкі, у якія перасялілі жыхароў залітых вёсак. Прыцягваюць яны ўвагу менавіта таму, што пасуюць да акружаючага краявіду так, як свінні сядло.

Мне асабліва хацелася пагаварыць з жыхарамі затопленых вёсак, паслухаць іх успаміны, зарыентавацца, што адчувае чалавек, які кожны дзень глядзіць на тое месца, дзе была яго хата і якой ужо ніколі не пабачыць. Аказалася, што такіх размоўцаў знайсці вельмі лёгка, асабліва, калі гаворыш да іх па-беларуску. На ўсіх прыезджых, якія размаўляюць на польскай мове, невядома чаму тыя пажылыя людзі глядзяць, як на віноўнікаў іх трагедыі. Пасля толькі я зразумеў іх спосаб мышлення. Недзе дзесяць гадоў таму назад прыехалі на „паланезах" з Беластока першыя паны (чытай: лайдакі), якія запрапанавалі ім падпісаць згоду на ліквідацыю гаспадарак, будынкаў. Узамен абяцалі спакойную і шчаслівую старасць у „блёках". Абяцалі таксама вялікія грашовыя кампенсацыі за патрачаную маёмасць. Было некалькі дзесяткаў гаспадароў, якія не пагаджаліся з такімі прапановамі, але аброслыя салам, кругламордыя жулікі і іх абдурылі. „Цяпер, — гаворыць 70-цігадовая спадарыня Ніна, — прыязджаюць яны сюды лавіць рыбу. Пазбавілі нас усяго, што было вынікам

☞ Працяг на стар. 3



*Канікулы канікуламі, але найлепей у школе!* **Фота М. Лукшы**

## ФАБІЯН АКІНЧЫЦ І ЯГОНЫ ЛЁС

### ЧАСТКА ПЕРШАЯ

У жыцці кожнай нацыі бываюць палітыкі, якія сваімі палітычнымі крокамі выклікаюць шмат рознагалосся і супярэчлівых ацэнак. Часта іх дзеянні бываюць памылковымі, але ж не робіць памылак толькі той, хто нічога не робіць. Такіх людзей у ідэалагізаванай савецкай гістарыяграфіі чакаў толькі „сметнік гісторыі", аплявуха і забыццё. Рабілася гэтак у дачыненні да ўсіх актыўных у палітычным, грамадскім і культурным сэнсе асоб, якія не змяшчаліся ў кан'юнктурных абагульненнях.

Ужо сёння беларускаму народу вяртаюцца прозвішчы і аб'ектыўная ацэнка дзейнасці Антона Луцкевіча, Вацлава Іваноўскага, Вацлава Ластоўскага, Адама Станкевіча і ўсіх дзеячоў Заходняй Беларусі ў час II Рэчыпаспалітай. Аднак нясмела, як да гэтай пары, згадваецца пра вельмі цікавага і неадназначнага палітыка гэтага перыяду — Фабіяна Акінчыца. Змова маўчання вакол яго асобы была звязана менавіта з ідэалагічнай фармацыяй, якую ён заснаваў у палове 30-х гадоў — з беларускім нацыянал-сацыялізмам і ахвотай пабудаваць беларускую нацыянал-сацыялістычную дзяржаву пры падтрымцы фашысцкай Нямеччыны. Таму, менавіта, ягоная дзейнасць да часу ўзнікнення Беларускай партыі нацыянал-сацыялістаў савецкімі гісторыкамі была забыта, а ацэнка зводзілася толькі да сцвярджэнняў тыпу: „беларускі буржуазны нацыяналіст, слуга нямецка-фашысцкіх акупантаў, ваенны злачынца".

Таксама польская гістарыяграфія дэталёва не распрацавала беларускага палітычнага руху ў II Рэчыпаспалітай. Толькі левы напрамак дачакаўся паглыбленых аналіз, але ў працах, якія датычаць Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ), пра Акінчыца амаль нічога не ўспамінаецца, а калі ўжо, дык ягоную ролю, аднаго з правадыроў партыі, памяншаецца.

Варта заўважыць, што беларускія эміграцыйныя гісторыкі таксама не займаліся справай Акінчыца. Такія адносіны палітычнай эміграцыі, звязаны, здаецца, з выпрацаванымі ёю стэрэатыпамі наконт дзейнасці беларускіх палітыкаў у час нямецкай акупацыі. Паводле эміграцыі, супрацоўніцтва з акупантамі было выкліканае выключна тактыкай, а не ахвотаю стварыць беларускую дзяржаўнасць з дапамогай фашысцкай Нямеччыны. Акінчыц, які адназначна выказаўся за фашысцкую беларускую дзяржаву, не змяшчаецца ў вобразе палітыкаў перыяду акупацыі.

Мэта гэтай публікацыі — прыблізіць асобу Ф. Акінчыца на фоне беларускага палітычнага руху міжваеннай Польшчы. У паасобных частках прасочым эвалюцыю ягоных дзеянняў і поглядаў, з левай Грамады, цераз Цэнтр-Саюз і Беларускую партыю нацыянал-сацыялістаў. На пачатку трэба адзначыць, што ў дачыненні да руху беларускіх нацыянал-сацыялістаў фармулёўку „партыя" будзем разглядаць умоўна. У рэчаіснасці была гэта група людзей, якая ў назове карысталася словам „партыя". Не адбыўся таксама ўстаноўчы з'езд партыі, які быў забаронены польскімі ўладамі.

Фабіян Акінчыц нарадзіўся 20 студзеня 1886 года ў каталіцкай сям'і ў засценку Акінчыцы, Стаўбцоўскага павета. У гэтых жа самых Акінчыцах чатыры гады раней нарадзіўся не хто іншы, як сам Якуб Колас. Выбягаючы наперад можна дадумоўвацца, што адносіны паміж Акінчыцам і братамі Міцкевічамі (сапраўднае прозвішча Я. Коласа) былі добрымі. Пра гэта можа сведчыць факт, што ў 30-ыя гады беларускія культурна-асветныя вечарыны ў Стаўбцоўскім павеце былі арганізаваны Акінчыцам не з кім іншым, а толькі з братам Я. Коласа — Міхасём Міцкевічам, які пражываў у Мікалаеўшчыне. Бацькі Фабіяна, Ян і Эмілія, абраблялі гаспадарку і то відаць нядрэнна, калі ў 1906 годзе іх сын змог пачаць навуку на юрыдычным факультэце Пецярбургскага універсітэта. На першым курсе ўступіў ён у рады расейскай партыі сацыял-рэвалюцыянераў, папулярна званых эсэрамі, у радах якой заставаўся да 1917 года. Не ведаем, ці ў гэтай партыі браў ён актыўны ўдзел, але з характару партыі мы бачым у якім на-

☞ Працяг на стар. 4

**Забойства 28 беларускіх фурманоў у лютым 1946 г.**

## ШЛЯХ ДА СМЕРЦІ

*У нашай газеце я двойчы вяртаўся ў надзвычай трагічны ў нашай беластоцкай гісторыі 1946 год, калі аддзел „Бурага" (Рамуальда Райса) спаліў вёску Зані („Попел і памяць", „Ніва" ад 6 мая 1990 г.) і Залешаны („Трава забыцця", „Ніва" ад 25 жніўня 1991 г.) ды пастраляў жыхароў гэтых вёсак. Ужо тады я ведаў, што застаецца мне яшчэ адна малавядомая і не высветленая да канца справа — смерць каля 30 фурманоў, якія былі пастраляныя бандай у лесе каля вёскі Старыя Пухалы, у завяршэнне крывавага рэйду „Бурага" па Беласточчыне на зломе студзеня і лютага 1946 г. Але тады ў мяне былі інфармацыі „з другіх рук", а са сведкамі падзей амаль паўвяковай даўнасці мне не ўдалося звязацца (ды ці жывуць яны, наогул?). Зусім нядаўна ў мяне была нагода перагледзець акты справы Рамуальда Райса („Бурага") і ягонага намесніка Казімежа Хмялеўскага („Рэкіна"), якая адбывалася перад вайсковым судом у Беластоку ўвосень 1949 г. У гэтых актах часткова асветлены і лёс згаданых фурманоў. Але шмат што надалей застаецца няясным. Калі хтосьці з чытачоў будзе ў змозе дадаць нешта да ніжэйапісанага, вельмі прашу паведаміць нам у рэдакцыю. Магчыма, удасца нам супольна рэканструяваць адзін з самых трагічных і жудасных эпізодаў паваеннай гісторыі Беласточчыны.*

У верасні 1945 г. „Буры" са сваім атрадам, які знаходзіўся ў распараджэнні камандавання АК, не прыняў загаду каменданта АК „Радаслава" выйсці з падполля і пакінуць узброенае змаганне. „Буры" прыступіў да падпольнай вайсковай арганізацыі пад назвай НЗВ (Narodowe Zjednoczenie Wojskowe). НЗВ гуртавала падпольныя групоўкі з нацыяналістычнай арыентацыяй (гэтак званых narodowców), якія мелі асабліва моцную падтрымку і апірышча сярод жыхароў заходніх паветаў Беластоцкага ваяводства і ў Ламжынскім ваяводстве. У снежні 1945 г. „Буры" быў назначаны камандзірам гэтак званага ПАСу (Pogotowie Akcji Specjalnej) на беластоцкую акругу, і ягоны атрад, які налічваў каля 150 людзей, стаў ядром гэтага ПАСу. Атрад „Бурага" быў добра ўзброены і дасканала валодаў тактыкай партызанскай барацьбы: ядро ягонага асабовага саставу складалі жаўнеры АК з часоў нямецкай акупацыі на Віленшчыне. Атрад у другой палове 1945 г. правёў шэраг смелых нападаў на падраздзяленні Чырвонай Арміі і Войска Польскага, на пастарункі міліцыі і

☞ Працяг на стар. 4

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*W Rosji źle się dzieje, bo trzy czwarte członków rosyjskiego rządu jest homoseksualistami — oświadczył na konferencji prasowej w Moskwie Waleryj Skuratow, przywódca partii „Odrodzenie". Skuratow wezwał rosyjski parlament, aby powołał specjalną komisję lustracyjną, ujawnił homoseksualistów we władzach i usunął ich.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 204)*

**Няўжо так? Дык гэтага не прадбачыў нават сам Уладзімір Ульянаў. Аказваецца, камунізм — гэта не апошні этап развіцця грамадства. Ён можа развівацца ў кірунку гомасексуалізму.**

* * *

*Duże straty poniosła polska scena polityczna. Komisja wybrana w Szczecinie odmówiła rejestracji Partii Pracujących Emerytów i Rencistów „Razem", ze względu na nikłą ilość podpisów. A szkoda, bo partia proponowała w swym programie karanie nieletnich przebywających w późnych godzinach poza domem, obowiązkową dwuletnią służbę ojczyźnianą mężczyzn i kobiet oraz stworzenie presji, powodującej miłość do ojczyzny.*

*(Kurier Poranny, nr 170)*

**Маладосць гэтых пенсіянераў прайшла, безумоўна, у hufcach „Służby Polsce".**

* * *

*Polski reporter Ryszard Kapuściński objechał prawie całą Rosję, żeby napisać swój wielki reportaż o „imperium". Nie udało mi się zobaczyć wszystkich brzegów gigantycznego zalewu (Siemianówka — Red.). Kapuściński zbierał materiały przez kilkadziesiąt lat. I ja potrzebuję trochę czasu, aby zwiedzić całe wodne imperium.*

*(Czasopis, nr 9, Dorota Kuźmicz w reportażu „Wodne imperium")*

**Гэта даказвае, што беларускаму журналісту таксама нялёгка даводзіцца здабываць кавалак хлеба. Асабліва над Семяноўскім вадасховішчам, куды не ездзяць цягнікі і іншыя самаходы.**

* * *

*To nieszczęście zarówno konfesji rzymskokatolickiej jak i prawosławnej, że atak na kler odbiera się jako atak na samą religię. Przecież kapłani nie są referentami Pana Boga, na miłość boską! Oni mają służyć wierzącym i wyznawaniu wiary. Natomiast traktowanie księdza czy katolickiego, czy prawosławnego jako pełnomocnika Boga jest bzdurą. Jest to wprost rzecz niebezpieczna dla religijnych ludzi. Jeśli się zabawić w analogię, to na tym przepadli komuniści i ateiści, kiedy to funkcjonariuszy utożsamiano z samą ideologią* — сказаў **Сакрат Яновіч** для **Kuriera Porannego**, nr 170.

* * *

*Od połowy sierpnia w okolicach Sejn lądują niezidentyfikowane obiekty latające. Straż Graniczna otrzymała od mieszkańców tamtejszych wiosek już kilka takich sygnałów. Pogranicznicy nie zaprzeczają, że granicę Polski drogą powietrzną przekraczają Litwini. Według świadków tajemniczego desantu, powietrzne pojazdy nawiedzające ostatnio regularnie ziemię sejneńską są wykonane metodą chałupniczą i przypominają motolotnie.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 206, dodatek regionalny Gazeta w Białymstoku)*

**Што б гэта ні было — манеўры літоўскіх паветраных сілаў, падрыхтаванне да атакі на Сейны ці адведзіны знаёмых па другі бок дзяржаўнай мяжы — усё дастаўляе яшчэ адзін важкі аргумент для польскага ўрада за тым, каб Польшча як найхутчэй апынулася ў NATO.**

* * *

*W ciągu jednej nocy 16-letni chłopak usiłował włamać się do... 42 samochodów na białostockim osiedlu „Leśna Dolina". Policjanci wyciągneli go spod Fiata 125p. Chłopak przyznał się nie tylko do tych 42 włamań, ale także do dziewięciu innych.*

*(Gazeta Współczesna, nr 169)*

*W ciagu ostatnich trzech lat liczba przestępstw popełnionych w Polsce wzrosła z ok. 400—500 tysięcy do ok. 800 tys. w ciągu roku.*

*(Gazeta Współczesna, nr 169)*

* * *

***Я лічу, што самая вялікая небяспека для нашага народа зыходзіць ад сённяшняга парламента і цяперашняга ўрада. (...) Не дай Божа, калі цяперашні парламент і ўрад пратрымаюцца яшчэ год. Гэта можа прывесці да нацыянальнай катастрофы.***

***(Народная газета, н-р 161, І. Макаловіч, намеснік галоўнага рэдактара)***

Не дай Божа, але ўрад і парламент можа...

* * *

***Арганізаваная злачыннасць легалізуецца, шпіёны — шпіёняць. І ім ніхто не перашкаджае.***

***(Звязда, н-р 160)***

Дзе такое? У Беларусі. Неверагодна, але ж гэта апублікавана ў „Звяздзе"! Што яшчэ раз пацвярджае ісціну аб надзвычай талерантным і памяркоўным характары беларуса. Няхай сабе арганізуюцца, няхай сабе шпіёняць — мая хата з краю...

# З мінулага тыдня

**Польшча падпісала з Сусветным і Еўрапейскім інвестыцыйным банкамі** пагадненні на пазыкі вартасцю ў 161 млн. доляраў, прызначаныя на частковае фінансаванне праграмы развіцця лясніцтва і аховы нацыянальных паркаў у 1993-1997 гадах. Дзякуючы гэтым крэдытам у першую чаргу будзе пасаджаны лес на 40 тысячах гектарах аблогаў. У будучым трэба яшчэ засадзіць лесам 1,5 млн. га зямлі, непрыгоднай для сельскай гаспадаркі, што ў выніку павялічыць арэал лясоў з 27,8 да 30 працэнтаў усёй плошчы краіны (сярэдняя ў Еўропе — 32 прац.).

**Прэзідэнт Лех Валэнса** запрасіў міністра абароны Расеі **Паўла Грачова** нанесці афіцыйны візіт у Польшчу. Міністр мае ўдзельнічаць ва ўрачыстасці афіцыйнага развітання з апошнімі расейскімі часцямі, якія пакінуць Польшчу 1 кастрычніка г.г.

**Папа Ян Павел II** пабываў з візітам у Літве, Латвіі і Эстоніі. Падчас сустрэчы з вернікамі ў віленскім парку Вінгіс Святы Айцец прамовіў таксама і на беларускай мове. У час папскага візіту ў Вільні ўпершыню ад многіх гадоў у гэтым горадзе служылася набажэнства па-беларуску. Калісьці імшы на беларускай мове служыліся ў трох віленскіх касцёлах. Гэтая традыцыя найдаўжэй захавалася ў касцёле св. Міхала, але і там „была яна груба спынена падчас савецкай акупацыі" — як напісалі віленскія беларусы ў лісце арцыбіскупу **Бачкусу**. Беларускія каталікі выказваюць у ім надзею, што набажэнствы на іх мове зноў вернуцца прынамсі ў адзін храм у Вільні.

**Пагадненне аб стварэнні супольнай рублёвай зоны** падпісалі прадстаўнікі ўрадаў і нацыянальных банкаў Арменіі, Беларусі, Казахстана, Расеі, Таджыкістана і Узбекістана. Пагадненне мае агульны характар і на яго аснове ў бліжэйшы час будуць падпісвацца двухбаковыя дамовы наконт функцыянавання супольнай грашовай сістэмы.

**У Тарнове адбыўся Сусветны форум паланійнага друку.** У сустрэчы ўпершыню ўдзельнічалі журналісты польскамоўных часопісаў з Санкт-Пецярбурга, Масквы, Кіева, Гродна, Менска, Рыгі і Вільні, а таксама з Казахстана і Узбекістана. Галоўны рэдактар выдання „Magazyn Polski" **Яўген Скрабоцкі** з Гродна сказаў: „Чакаем наладжання новых кантактаў з польскімі асяроддзямі ў свеце і на іх фінансавую падтрымку, але не толькі. Спадзяемся таксама на супрацоўніцтва ў выдавецкай галіне".

У выніку некалькігадовых намаганняў **Беласток стаў членам „EURO"** — еўрапейскай сеткі здаровых гарадоў. У сувязі з гэтым Беласток абавязаўся ў 1993-1997 гадах ажыццявіць план, які, між іншым, прадугледжвае ліквідацыю транспартных забруджанняў, архітэктурных бар'ер для інвалідаў, папулярызацыю здаровых харчоў, паляпшэнне эстэтыкі горада.

**Беластоцкі музей вёскі**, які размясціўся ў падбеластоцкіх Асовічах, адчыніў сваю першую выстаўку. Можна там паглядзець сродкі вясковага транспарту XIX стагоддзя (вазы і брычкі) і колішнюю збрую. Сярод экспанатаў знаходзіцца стары жалезны воз з ваколіц Мілейчыц.

**„Пакацігарошак"** („Turlajgroszek") — гэта спектакль беластоцкага Тэатральнага таварыства „Вершалін", які заваяваў галоўны прыз на міжнародным фестывалі ў Эдынбургу. Аўтарамі пастаноўкі, у якой іграюць акцёры і лялькі, з'яўляюцца **Тадэуш Слабадзянак і Пётр Тамашук** — беластоцкія тэатральныя творцы. У аснову спектакля лягла казка, набліжана да фальклору польска-беларускага пагранічча.

**Трыццаць адну ікону** знайшлі мытнікі ў аўтобусе, на якім экскурсанты з Беластока падаваліся ў Рым. Кантрабандай праўдападобна займаліся пяць турыстаў. Трынаццаць ікон былі схаваны ў адмысловых тайніках. Справай займаецца Раённая пракуратура ў Шчэціне.

**Невядомыя злачынцы ўзламаліся ў Камісарыят паліцыі ў Міхалове.** Зламаўшы краты і замкі, адчынілі яны яшчэ і браніраваную шафу са зброяй. Зладзеі забралі два пісталеты П-64 і чатыры магазіны з 24 патронамі калібру 9 мм.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Ці медыцынскія паслугі яшчэ дармовыя?
- Як Пётр Байко стаў язычнікам.
- Вандроўка "Балагану" і "Жывога слова" па Беласточчыне — успамін удзельнікаў.
- Ачышчальная моц вады.



# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

## НЕ РЭФЕРЭНДУМАМ, ДЫК КАМІТЭТАМ

Беларускія дэмакраты прадпрымаюць чарговую спробу адправіць у адстаўку парламент рэспублікі, а разам з ім і ўсе мясцовыя Саветы. Па ініцыятыве БНФ і Аб'яднанай дэмакратычнай партыі ў рэспубліцы ствараецца грамадзянскі камітэт за датэрміновыя выбары Вярхоўнага і мясцовых Саветаў.

## ЗАСУМАВАЛІ ПА ІМПЕРЫІ

На гэтым тыдні ў Менску пачынаецца кангрэс народа Беларусі. Ладзяць гэтае мерапрыемства пракамуністычныя і прарасейскія сілы, што аб'ядналіся ў так званы народны рух Беларусі. Яшчэ да пачатку кангрэса яго арганізатары заявілі, што будуць заклікаць да аб'яднання Беларусі з Расеяй у адну дзяржаву.

Цікава, што на кангрэс запрошаны і часова адхілены ад займаемай пасады віцэ-прэзідэнт Расеі Аляксандр Руцкой, а таксама лідэры камуністычных і шавіністычных партый Расеі. А вось што датычыць гасцей з „далёкага" замежжа, то запрашэнні на гэты кангрэс атрымалі толькі дыпламатычныя прадстаўнікі Кітая, В'етнама і Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі. Як растлумачылі арганізатары кангрэса, такі гонар тры „сацыялістычныя" дзяржавы заслужылі сваёй самаадданай барацьбой супраць амерыканскага імперыялізму. Дэмакратычныя партыі і рухі Беларусі, а таксама нацыянальныя суполкі рэзка асудзілі правядзенне ў нашай рэспубліцы кангрэсу рэваншыстаў, якія выступаюць супраць нашай незалежнасці.

## ГІМНАЗІЯ ДЛЯ ВІЛЕНСКІХ БЕЛАРУСАЎ

Днямі ў Вільні адбылося ўрачыстае адкрыццё беларускае гімназіі. Крыху больш за сто віленскіх беларусаў сталі навучэнцамі гэтай нацыянальнай школкі.

Адметна, што вялікую дапамогу ў адкрыцці беларускай гімназіі аказала Літоўская дзяржава, якая выдзеліла памяшканне і грошы для аплаты работы дзесяці настаўнікаў. Астатнія клопаты ўзяло на сябе Міністэрства адукацыі Беларусі. З Менска ў Вільню былі завезены беларускія падручнікі, кнігі і камп'ютэры.

## БЕЛАРУСЫ — САМЫЯ БАГАТЫЯ ЛЮДЗІ. У БЫЛЫМ СССР

Цікавыя весткі прыйшлі на Беларусь ад Сусветнага банка рэканструкцыі і развіцця. Згодна з дакладам спецыялістаў гэтага банка, якія аналізавалі прыбытак жыхароў рэспублік былога СССР, беларускія грамадзяне аказаліся самымі багатымі. Па падліках замежных банкіраў, прыбытак кожнага жыхара Беларусі ў мінулым годзе склаў у сярэднім 2920 доляраў ЗША, што ў пераліку на рублі прыкладна тры мільёны.

Зрэшты, каб беларусы асабліва не ганарыліся сваім багаццем, спецыялісты банка для параўнання прывялі дадзеныя прыбыткаў сярэдняга амерыканца і японца. Адпаведна — 22560 і 26920 доляраў на кожнага.

## ПАКУЛЬ ПАГРАНІЧНІКІ РАЯЦЦА, ПАРУШАЛЬНІКІ СМЯЮЦЦА

Днямі ў Белавежскай пушчы адбыліся перамовы паміж беларускімі і польскімі дэлегацыямі. Вартаўнікі дзяржаўнай мяжы абедзвюх краін падвялі некаторыя вынікі сваёй сумеснай працы па ахове граніцы, а таксама абмеркавалі перспектывы адкрыцця новых прапускных пунктаў.

Адметна, што за час гэтых двухдзённых перамоў на беларуска-польскай мяжы было затрымана 12 грамадзян Кітая, 9 — Малазіі і 3 — Расеі. Усе яны спрабавалі нелегальна перайсці граніцу і трапіць у Польшчу.

## А Ў НАС У КВАТЭРЫ КЕРАГАЗ

Падобна на тое, што ў хуткім часе жыхары Беларусі пачнуць назапашваць лучыну. Прынамсі напаўзабытыя керагазы зноў пачалі карыстацца попытам. Напалоханыя надыходзячым паліўным „голадам", людзі ў Беларусі кінуліся набываць керагазы, каб у выпадку зімовай нафтавай блакады з боку Расеі, мець магчымасць гатаваць ежу.

Дарэчы, Віцебскі механічны завод, які раней пастаўляў керагазы пераважна ў Манголію, апошнім разам працуе толькі на ўнутраны рынак. Попыт на керагазы цяпер агромністы.

Няўжо і да лучыны хутка вернемся?

## ГАЗЕТНАЯ ЗАСЛОНА

Энергетычна-паліўная ізаляцыя не ходзіць адна — следам завітала на Беларусь ізаляцыя інфармацыйная. Улічваючы „ненажэрную" інфляцыю, Міністэрства сувязі і інфарматыкі не рызыкуе падчас чарговай падпісной кампаніі на перыядычныя выданні аб'яўляць падпіску на тэрмін большы за адзін квартал наступнага года, як і не гатовае да таго, каб аплаціць падпіску на былую цэнтральную прэсу да канца гэтага года.

Для простых чытачоў у Беларусі гэта азначае, што з 1 кастрычніка яны не ўбачаць у сваіх паштовых скрынях большасці расейскіх газет і часопісаў. Выключэнне складуць толькі тыя выданні, якія згадзіліся прыняць аплату ў беларускіх рублях на разліковыя рахункі ў рэспубліцы. Супакойвае хіба толькі тое, што сярод іх — самыя папулярныя („Комсомольская правда", „Аргументы и факты", „Труд"). Не згаджаецца губляць беларускую аўдыторыю і камуністычная „Правда".

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## НЕ ЎСЁ ТАК БЫЛО...

Не ў кожнай вёсцы, як гэта ў Старым Беразове (гл. тэкст Г. Мароза "Сенажаць -- даўней і цяпер" у "Ніве" ад 8 жніўня г.г.), ёсць у гаспадароў свае трактары, ратацыйныя касілкі ці самазбіраючыя прычэпы. У маёй роднай Семяноўцы ў лічаных гаспадароў сёць свае трактары. Усе за паслугамі едуць у нараўчанскі ПУМ. Не ва ўсіх ёсць конныя варочалкі сена, не гаворачы пра трактарныя! Касой, праўда, ніхто не косіць, але поўнай механізацыі ўборкі сена -- няма. Пакосы разбіваюць і грабуць сена пераважна ўручную, бо не ўсе маюць зграбалкі. Памятаю, што з дваццаць гадоў таму ўсе касілі траву косамі, а потым наймалі ў ПУМе ў Семяноўцы звычайную касілку, бо ратацыйная была дарагая. Пры мокрым надвор'і, калі яшчэ не былі меліяраваныя лугі, многім гаспадарам даводзілася шукаць сухое месца на лугах, каб высушыць сена. Возаў-жалезнякоў ужо не было. Скрыпучага жалезняка я бачыла толькі ў старэнькага дзядзькі маёй бабулі. Ён не хацеў купляць воза з гумовымі коламі, бо, як гаварыў, прывык да свайго старога скрыпуна -- ён стары і воз стары, і так ездзіў на ім на смерці.

Спявалі людзі. Праўда, усё менш ды менш... Калісь было весялей, хаця цяжка рукам. Цяпер лягчэй рукам, але сумней на душы!

**АЎРОРА**

## ГРАМАДОЮ БУДАВАЛІ І ЎСЁЙ ВЁСКАЙ ГАСЦЯВАЛІ

Слаўна святкавалі адкрыццё новага клуба ў Старым Беразове. На гасціну за супольным сталом засела каля васьмідзесяці чалавек. Выглядала, аднак, што нас вельмі мала, бо гасцінная зала вялікая, можа ўмясціць і сто пяцьдзесят чалавек. Адкрыццё абдылося па-новаму, не так як даўней. Не было прамоваў ні першых, ні другіх сакратароў. Пасля малітвы "Ойча наш" усе, і беразоўцы, і запрошаныя госці, заселі за сталы. Сталы былі багата застаўлены, ніякага крызісу на іх не было відаць. Было і варанае і жаранае, як у казцы. Нездарма за "камуны" нашыя жанчыны не адны курсы кулінарыі закончылі, многае ім з гэтага асталося. Ну і, вядома, гарэлка была, без якой у нас яшчэ не навучыліся гасціну спраўляць. На кожным стале красавалася "каласістая" бутэлька; можа таму, што жыта ў нас яшчэ не мае цаны. Скажу вам аднак, што гасцявалі ў меру і п'яных зусім не было. Можа тыя, што любяць замнога кульнуць, падумалі, што ў такое свята не выпадае напіцца. За сталом было прыемна, культурна і весела, гучэлі застольныя песні ў выкананні "Арэшкаў". Нашыя ім падпявалі і спеў разносіўся на ўсю вёску. Мала цяпер такіх хвілін бывае. Толькі нашыя гаспадыні былі занятыя, бо трэба было талеркі мяняць і гасцям дагаджаць. Вялікае ім дзякуй!

А побач, у танцавальнай зале грымеў аркестр і гуляла моладзь з усяе ваколіцы. На панадворку, як на фэсце або на аўтабіржы — самаходы, самаходы; палавіну вёскі занялі. Чуваць музыку, дзявочы смех і пах духоў. Так, гавораць, было цэлую ноч, бо найлепш танцаваць і весяліцца маладым, калі ночка мае ўладу сваю. Толькі з надыходам раніцы пачалі маладыя разыходзіцца. На славу свята адбылося ў нас, доўга людзі будуць памятаць. Напамінаць аб ім будзе прыгожы клуб, які ўзнік, дзякуючы ахвярнасці беразоўцаў. Няхай клуб служыць нам і нашым нашчадкам многія гады! Ахвотна запрашаем да нас, усім будзем рады. Людзі ў нас гасцінныя і не ганарыстыя. Прыязджайце, пабачыце самі!

**ГРЫША МАРОЗ**

## ВОЗЕРА СЛЁЗ

*Працяг са стар. 1*

нашай працы, працы нашых бацькоў, дзядоў і прадзедаў. Пазбавілі нас усяго гэтага, каб мець дзе прыехаць выпіць гарэлкі, паплываць лодкай, пагуляць з дзеўкамі. Няхай іх халера возьме!" „У кватэры, — гаворыць Марыя з былых Боўтрыкаў, — тынк адпадае ад сценаў, на апошнім паверсе дождж амаль на галаву капае, а плаціць за яе кажуць па 600—700 тысяч у месяц, калі пенсіі ўсяго мільён атрымоўваю. Нашыя мужыкі памерлі, пажыўшы толькі два гады ў гэтай клетцы". Малодшыя жыхары, якія апошнім часам патрацілі працу і сацыяльную дапамогу, знайшліся ў бязвыхадным становішчы. У некаторых нават няма сям'і, якая магла б успамагчы мяшком бульбы ці кавалкам сала. Шмат людзей збірае бутэлькі, якія вакол возера пакідаюць г. зв. „турысты". Некаторыя лічылі, што заробяць на грыбах, але няшмат іх было ў гэтым годзе.

„Як можна пражыць, — уключаецца ў размову чалавек, якога імя ні прозвішча я не запамятаў, — калі на харчаванне застаецца ў месяц 300—400 тысяч злотых? Цэлае шчасце, што не мусім купляць ні вопраткі, ні мэблі, хопіць запасаў і таго, што дзеці аддадуць. Часам адну бутэльку піва з суседам купляем, бо аднаму гэта ўжо надта вялікі выдатак. Такімі жабракамі то мы яшчэ не былі ніколі".

Пасля гэтых размоваў неяк зусім адхацелася мне лезці ў ваду. Семяноўскае вадасховішча чамусьці здалося мне возерам слёз.

**ВАСІЛЬ КУРГАНОВІЧ**

## ЗАБЛУДАЎСКАЯ СТАТЫСТЫКА

Заблудаўская гміна займае плошчу ў амаль 35 тысяч гектараў. Больш 21 тысячы гектараў -- гэта сельскагаспадарчыя ўгоддзі, а дзевяць тысяч гектараў займаюць лясы.

У мястэчку, 48 вёсках і пяці хутарах пражывае каля 12 тысяч чалавек. У самім Заблудаве зараз жыве каля дзвюх тысяч асоб. Найбольшыя вёскі -- гэта Дайліды-Гурнэ -- 1700 жыхароў, Рыбалы -- больш 700, Галіцкія і хутары Дайлідаў -- больш 400, Паўлы -- 330 ды Крыніцкія -- 280.

У мястэчку Заблудаў многія яго жыхары займаюцца сталярнай, будаўнічай, каменячоснай і слесарскай вытворчасцю. Многія асобы выконваюць транспартныя паслугі. Варта заўважыць, што ў гміне ўсяго толькі адзін цырульнік (і то дамскі), няма шаўца ні механічнай пральні. Адно ўсялякіх крамаў удоваль. У іх купіць можна амаль усё.

**(яц)**

## ДЗІВА Ў ЛАСІНЦЫ

Жыве на хутары ў Ласінцы Марыя Анікіюк. Хату яе відаць нават з аўтобуса, калі прыкладна ехаць з Гайнаўкі ў Нарву. Калі аўтобус спыніцца на прыпынку, сяліба Марыі Анікіюк з правага боку.

— Я даўно ўжо хацела запрасіць нейкага журналіста, — гаворыць, — каб зайшоў на мой панадворак і пабачыў тое дзіва. Ёсць у мяне каза, Анка яе клічу. Купіла яе ад нараўскага доктара. Часамі выпускаю я сваю свінню ў садочак, каб сабе пахадзіла. Тады каза Анка ўзлазіць ёй на хрыбет і адтуль дастае яблыкі.

— А што на гэта свіння?

— Як што? Нічога, нават не зварухнецца. Баіцца мусіць, каб тая ножак не паламала. Яна (свіння) дазваляе нават ездзіць на сабе маім 16-гадовым унукам!

**(мак)**

## ВЕСТКІ З ГАЙНАЎКІ

Пры вуліцы 3 Мая ліквідавалі вялікую спажывецкую краму "Дэлікатэсы-Порто", якая была ўласнасцю Уладзіміра С. Зачынілі яе па прычыне вядомай толькі адпаведным уладам.

У тым жа комплексе будынкаў была іншая спажывецкая крама, якую ўласнік перанёс у меншы будынак па прычыне меншых аплат за памяшканне.

У першай палове верасня адбудзецца аўкцыённы продаж парожніх будынкаў для гаспадарчай дзейнасці.

Каля рынку пры вуліцы 3 Мая паявілася румынка з двума малымі хлопчыкамі. Жабруе. Хто дапаможа ёй, дасць крыху грошай ці яду, а хто і не дасць. Дасюль мы тут жабракоў не бачылі.

## ... І З БЕЛЬСКА

Адрамантавалі частку вуліцы Міцкевіча за будынкамі каля рынку. Цяпер кладуць новы тратуар, акуратна ўкладваюць бетонныя брускі.

Урэшце ў Бельску знайшлі адпаведнае месца для судовых выканаўцаў (каморнікаў) і вячыстых кніг. Сакратарыят будзе знаходзіцца пры вуліцы Міцкевіча ў прыгожым будынку, каля рынку.

На бельскім рынку можна спаткаць жабруючых румынскіх цыганоў, старых і малых. Ва ўсіх іх ёсць каляровыя дошачкі з надпісамі на польскай мове з просьбай дапамагчы ім.

**АЎРОРА**

## ЛЮДКОВЕ, ЦІМАШЭВІЧА СУДЗЯЦЬ!

Станіслава Каралькевіч, жыхарка Беластока, падала 30 жніўня гэтага года ў суд Уладзімежа Цімашэвіча. Ейная скарга датычыла выбарчага плаката В. Цімашэвіча — плаката яшчэ з прэзідэнцкай кампаніі, якім лідэр сацыял-дэмакратаў пачаў карыстацца і ў гэтай кампаніі. На плакаце віднеюць воблік Цімашэвіча ды лозунг: *Mamy te same kłopoty. Pokonajmy je razem.*

Беластачанка дамагалася канфіскаваць гэты плакат, забараніць публікацыі такіх ды падобнага зместу плакатаў, перапросін В. Цімашэвічам большасці патэнцыяльнага электарату за непраўдзівую інфармацыю ды заплаты 20 мільёнаў злотых у карысць беспрацоўных. Свае дамаганні жыхарка Беластока асэнсавала тым, што ў Цімашэвіча свае выдавецтва, гуртоўня (аптовы склад) алкаголю ды агромная гаспадарка, а значыць — яго клопаты не маюць нічога супольнага з клопатамі пенсіянера, настаўніка ці наёмнага рабочага.

31 жніўня Ваяводскі суд у Беластоку разгледзеў гэту скаргу — 139 артыкул „Выбарчай ардынацыі", на аснове якога складзена была скарга, абавязвае ваяводскія суды разглядаць справы на працягу сутак. Уладзімеж Цімашэвіч на сваю справу не з'явіўся, хаця аб яе месцы і тэрміне ведаў. Так прынамсі сцвердзіў упаўнаважаны Выбарчага камітэта сацыял-дэмакратаў, які дадаткова заявіў, што выбарчы плакат, якога датычыць скарга, з'яўляецца ўласнасцю выбарчага штаба сацыял-дэмакратаў, значыць, толькі выбарчы штаб са сваім юрыдычным апаратам кампетэнтны заступіцца за інтарэсы В. Цімашэвіча. Затым прадставіў свае паўнамоцтва з пячаткай камітэта. Ваяводскі суд адхіліў скаргу жыхаркі Беластока. На аснове плаката і яго зместу, гаварылася ў асэнсаванні прысуду, нельга ўстанавіць, што накіраваны ён якраз да самага беднага слоя грамадства, матэрыяльнае становішча якога непараўнальнае са становішчам В. Цімашэвіча. Нельга выключыць, сцвярджалася, што сярод выбарчыкаў знойдуцца людзі, клопаты якіх ідэнтычныя з клопатамі В. Цімашэвіча.

На заканчэнне варта адзначыць яшчэ адну акалічнасць усяе справы. В. Цімашэвіч быў адсутны, а яго інтарэсы і ўсяго выбарчага штаба сацыял-дэмакратаў прадстаўляў юрыдычны дарадчык гэтага ж штаба ды адначасна ўпаўнаважаны Выбарчага камітэта сацыял-дэмакратаў. Яго асобе і варта адвесці пару радкоў, бо ў гісторыю беларускага нацыянальнага руху запі-саўся ён болей за самога Цімашэвіча. Прадстаўніком В. Цімашэвіча 31 жніўня ў Ваяводскім судзе быў Януш Альшэўскі. Чытачам „Нівы", якія не памятаюць, з чым звязана гэтае прозвішча прыгадаю, што некалі Януш Альшэўскі сядзеў у юрыдычных дарадчыках Беларускага грамадска-культурнага таварыства, калі паміж Таварыствам і нашай рэдакцыяй ішла спрэчка за будучыню і воблік „Нівы". *Jesteście państwo kompletnie wynarodowieni...*— сказаў тады мецэнас Альшэўскі беларусам. На шчасце, рэзка паўстрымала яго спадарыня Багуміла Бэрдыхоўская з Міністэрства культуры і мастацтва, а то невядома, якімі „ашаломамі" назваў бы яшчэ той дарадчык патэнцыяльны электарат свайго кліента.

**(алм)**

## ПОЛЬСКІЯ СУПОЛКІ Ў БЕЛАРУСІ

У Беларусі дзейнічае каля 300 заходнееўрапейскіх і амерыканскіх фірм і каля 400 з удзелам польскага капіталу. Гандлёвыя абароты апошніх у мінулым годзе дасягнулі суму 320 мільёнаў долараў. Да развіцця польска-беларускага гаспадарчага супрацоўніцтва ў вялікай ступені прычыніліся Дзяржаўная гаспадарчая палата і Польска-беларуская гандлёва-прамысловая палата. У падпісанні найбольшых гандлёвых кантрактаў паміж польскімі і беларускімі фірмамі пасрэднічалі літоўскія фірмы, якія добра апанавалі беларускі рынак — сказаў Пётр Гузоўскі, дырэктар Польска-беларускай гандлёва-прамысловай палаты. Мэта дзейнасці яго палаты — элімінацыя пасрэднікаў шляхам арганізацыі выставак і кірмашоў. Другой важнай задачай будзе засноўванне тымі самымі суб'ектамі фірм з аднаго і другога боку граніцы, каб памяншыць рызыку, звязаную з узаемным плацяжом. Дагэтуль вельмі частай з'явай былі свядомыя банкруцтвы фірм з аднаго боку граніцы вінаватых грошы фірмам з другога боку граніцы. Напрыклад, у палату звярнулася беларуская фірма „Sasha Ltd." з просьбай дамагчыся паўмільёна долараў у аднэй польскай фірмы, якая збанкрутавала. У Беларусі заграничныя фірмы першыя тры гады звольнены ад налогаў, а тыя фірмы, якія будуць праводзіць інвестыцыі стратэгічнага характару (напр. прадукцыя лекаў, аўтамабіляў, хімікатаў) пасля трох гадоў налогавых канікул будуць плаціць толькі 50% прадугледжанага падатку.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

*ВІКТАР ШВЕД*

### ТЭЛЕФОНЫ, ТЭЛЕФОНЫ

*У вёсцы Мора*

Пасля святла, з крана вады,
Хаты напоўніліся звонам.
Тут працягнулі правады
З неспадзяваным тэлефонам.

Горад на провадзе цяпер,
Знойдзе там селянін любога,
І выкліча пенсіянер
Карэту хуткай дапамогі.

І я ў кватэры гарадской
У трубцы чую праз хвіліну,
Як адзываецца брат мой
Або мая сястрыца, Ніна.

А калі пазваню дамоў,
Я раптам горка засумую,
Што ў трубцы голасу бацькоў
Ужо ніколі не пачую.

### ЗАЯЧЫ ЛЁС

Дрыжыць заяц як асіна,
Ён баіцца чалавека,
З рук якога часта гіне,
Не дажыўшы свайго веку.

Чалавеку трэба многа,
Ён звяроў адвечны вораг.
Зайца не дагоняць ногі —
Даганяе яго порах.

### СВЯТОЧНЫ КАРП

Карп плюскаецца ў ванне,
Прынесены дахаты.
Яму наканавана
Не дачакацца свята.

Паложаць на талерцы,
Як завітаюць госці.
Дык мусіць штось памерці,
Каб толькі мог жыць хтосьці.

# ШЛЯХ ДА СМЕРЦІ

*Працяг са стар. 1*

пастарункі аховы чыгункі. У студзені 1946 г. „Буры” скіраваў сваю зброю супраць мірнага жыхарства беларускіх вёсак на Беласточчыне.

28 студзеня 1946 г. у вёску Лозіцы (сядзіба лясніцтва) прыехала звыш паўсотні фурманак з гмінаў Орля, Чыжы і Гайнаўка. Людзі прыехалі па дровы, якія ў гэты дзень лясніцтва прадавала. Дровы мелі служыць гмінным (грамадскім) патрэбам, бо, як вынікае з актаў справы, фурманы былі вызначаныя салтысамі паасобных вёсак. Сталася так, што ў той самы дзень праз Лозіцы пралягаў шлях атрада „Бурага”, які кіраваўся на Гайнаўку. Магчыма, выпадковасці тут не было, і „Буры” загадзя ведаў, што ў Лозіцах будуць падводы, якія яму спатрэбяцца ў задуманай ім акцыі. Бандыты ўзялі ўсе вазы з фурманамі, загрузіліся на іх і казалі ехаць у Гайнаўку. Фурманкі заставаліся на ўскраіне Гайнаўкі пад канвоем, калі банда, падзеленая на тры ўдарныя групы, заатакавала Гайнаўку. (Мясцовасць была „Бураму” добра вядомая, бо тут ён да паловы 1945 г. служыў як камандзір узводу ў кампаніі аховы лясоў). У выніку неспадзяванай атакі быў абяззброены пастарунак міліцыі, 12 афіцэраў Чырвонай Арміі (яны ў той час былі на патанцоўцы), а адзін у ранзе палкоўніка быў узяты ў палон (яму, распранутаму дагала, удалося збегчы, калі банда рушыла на фурманках з-пад Гайнаўкі на Залешаны).

Адзін са сведкаў на справе, які трапіўся „Бураму” ў рукі яшчэ перад Лозіцамі (Хведар Рошчанка з Волькі-Выганоўскай, якому ўдалося збегчы), сказаў на судзе: Zacząłem ich prosić, żeby mnie puścili do domu, to porucznik zaprowadził mnie do kapitana. Kapitan zaś kazał mi brać konie i jechać dalej i powiedział: „ Białorusy, wasza ziemia tu, ale głębiej. Żadna żywa dusza ze wsi Zaleszany nie wyjdzie”. Залешаны згарэлі 29 студзеня, амаль датла, а ад бандыцкіх куляў згінулі 9 асобаў, у агні спаліліся далейшыя 5. У той самы дзень банда спаліла яшчэ Вольку-Выганоўскую. І рушыла ў далейшую дарогу.

Дзе прабываў „Буры” да 2 лютага — у следстве ясна не выявілася. 2 лютага запалыхалі Зані і Шпакі. Ад бандыцкіх куляў і ў агні загінула 25 далейшых безабаронных ахвяраў. У той самы дзень згарэла яшчэ беларуская вёска Канцавізна (у Беластоцкім павеце), спаленая адным з падначаленых „Бураму” швадронаў.

Фурманы са сваімі вазамі і коньмі былі ўвесь час пры бандзе (ад 28 студзеня да 2 лютага — выпадае 6 дзён). Следства засведчыла, што тыя, у якіх былі слабейшыя коні і фурманкі, былі адпушчаныя дахаты. Прытым, „Буры” звольніў фурманоў-палякаў. Мікалай Лабасюк з вёскі Краснае Сяло (Krasna Wieś), з якой „Буры” ўзяў 11 фурманоў, сведчыў: W/w pojechali z swymi wozami i końmi, którzy do dnia dzisiejszego nie powrócili. Ponadto nadmienia się, że uprowadzeni byli narodowości białoruskiej, którzy nie powrócili. Natomiast z nimi pojechali dwaj narodowości polskiej (...), również mieszkańcy wsi Krasna Wieś, którzy na następny dzień powrócili wraz z furami do domu.

Пасля спалення Заняў і Шпакоў банда апынулася каля вёскі Старыя Пухалы. Тут настаў канец шляху фурманам. Па загаду „Бурага” ягоныя жаўнеры пастралялі 28 мужчынаў. Ніхто не знайшоў іхняй магілы ці месца, у якім іх пакінулі бандыты. Удалося ўстанавіць прозвішчы забітых.

З вёскі Краснае Сяло: Dmitruk Grzegorz, Chwaszczewski Łukasz, Bondaruk Michał, Siemieniuk Teodor, Jakuć Michal, Bondaruk Aleksander, Dmitruk Aleksander, Juzierczuk Aleksander, Saszkiewicz Michał.

З вёскі Махнатае: Kot Włodzimierz.

З вёскі Ягаднікі: Ławrynowicz Jan, Nazaruk Nikifor, Juszczuk Jan.

З вёскі Пасечнікі Вялікія: Golonko Aleksy, Ławrynowicz Grzegorz.

З вёскі Арэшкава: Szujecki Jan, Kiendyś Piotr.

З вёскі Збуч: Tadeuszuk Nikifor, Maksymiuk Aleksander, Grygoruk Wasyl, Sawczuk Wasyl, Bilewski Bazyl.

З вёскі Чыжы: Łukaszuk Teodor, Tarasiuk Jan, Jakimiuk Jan.

З вёскі Падрэчаны: Jakimiuk Teodor.

З вёскі Крывая: Szadojko Mikołaj.

З вёскі Ракавічы: Pietruczuk Grzegorz.

**ЯН МАКСІМЮК**

# ШТО ТАКОЕ „ТАЛЕРАНТНАСЦЬ”?

2 верасня г. г. ў Беластоку адбылася, арганізаваная Управай Экуменічнага фонду „Талерантнасць” канферэнцыя, падчас якой прадстаўнікі Праваслаўнай, Каталіцкай ды Пратэстанцкай цэркваў і атэісты задумоўваліся, як жыць разам людзям розных светапоглядаў, веравызнанняў, нацыянальнасцяў. Дыскусію папярэдзіў толькі адзін даклад пратэстанцкага тэолага доктара Кароля Карскага. Сказаў ён, між іншым, што ніякая меншасць не любіць слова „талерантнасць”. Найчасцей ўспрымаецца яно як патрыярхальныя адносіны старэйшага брата. Дакладчык працытаваў словы рымскага папы Яна Паўла ІІ, якія выказаў ён падчас сустрэчы з польскімі пратэстантамі ў Варшаве ў маі 1991 г.: „Мне не хацелася б, каб вы мяне толькі вытрымлівалі, мне не хацелася б таксама толькі цярпець вас”. У цяжкай сітуацыі знаходзяцца сёння не толькі рэлігійныя і нацыянальныя меншасці, але таксама і атэісты, — прадаўжаў доктар Карскі. Вялікую небяспеку ствараюць прапановы ўвесці ў Канстытуцыю ІІІ Рэчыпаспалітай запіс аб хрысціянскіх вартасцях і асаблівай ролі Каталіцкага касцёла ў жыцці дзяржавы.

Прафесар Тадэвуш Кашароўскі, які да хрысціянства вярнуўся з гітлераўскіх турмаў, выказаў погляд, што калі хтосьці з'яўляецца хрысціянінам, то ў яго жыцці няма месца для нянавісці. Калі ёсць інакш, чалавек такі не ёсць хрысціянінам.

Старшыня Праваслаўнага брацтва прафесар Міхал Малафееў сказаў, што словы Яна Паўла ІІ наконт талерантнасці — гэта толькі тэорыя. Практыка — гэта Беласточчына, Холмшчына, Новасандэччына. Практыка кожнага дня — гэта змаганне паміж католікамі і праваслаўнымі за цэрквы, могільнікі. Прафесар М. Малафееў выказаў таксама думку, што унія, якую падтрымоўвае Ватыкан, гэты траянскі конь, на якім католікі хочуць уехаць у Расею, Беларусь і Украіну. Тут на ўсходзе рыхтуюцца місіянерскія кадры, якія пойдуць наварочваць хрысціян на хрысціянства. Некаторыя патрацілі ўжо арыентацыю, ці Польшча — гэта яшчэ незалежная дзяржава, ці ватыканская калонія — прадаўжаў старшыня Праваслаўнага брацтва.

Альжбета Чыквін сказала, між іншым, што калі існуе адно вялікае веравызнанне — Каталіцкі касцёл, і побач шмат вельмі малых цэркваў, жэсты ў напрамку паразумення лягчэй выконваць таму вялікаму. У сапраўднасці ёсць інакш, а пра талерантнасць найбольш гавораць палітыкі левых накірункаў.

Здзіслаў Кубкоўскі, які адрэкамендаваўся як атэіст і сімпатык „лявіцы” запытаў, ці, паводле прысутных, талерантнасць павінна адносіцца да няверуючых людзей. Ці могуць быць талерантнымі ўстановы, — задумоўваўся пан Кубкоўскі, — якія маюць манаполь на праўду?

Прафесар Ежы Капаня, лідэр беластоцкай Дэмакратычнай уніі сказаў, што мышленне прысутных знайшлося пад ціскам палітыкі. На працягу дзесяткаў гадоў камуністы стварылі страшны — з маральнага пункту гледжання — падзел на „веруючых” і „няверуючых”. Тады „прагрэсіўнымі” былі другія. Цяпер, ад чатырох гадоў стала наадварот. Чалавек, які не звязаўся з ніякай рэлігійнай арганізацыяй, можа быць таксама глыбока веруючым, нават тады, калі ён заяўляе аб сваім атэізме. Мусіць ён у такім выпадку мець веру ў сябе, у сваю маральнасць і ў тое, што жыве толькі да сваёй смерці. Гэта таксама вера. Чалавек „лявіцы”, — прадаўжаў прафесар Капаня, — не мусіць быць талерантным. На гэтай зямлі палітыкі левых плыняў вельмі інструментальна выкарыстоўваюць заклікі да талерантнасці, плюралізму, дэмакратыі, карыстаючыся, перш за ўсё, падтрымкай праваслаўнага насельніцтва ў парламенцкіх выбарах. Але гэта не мае нічога супольнага з сапраўдным падыходам да талерантнасці палітыкаў гэтага лагера.

Голас у дыскусіі браў таксама і ксёндз Зыгмунт Лявіцкі з Рымска-каталіцкай епархіі, які пераконваў прысутных, што унія была задумана як дарога да еднасці хрысціянства. Адказваў яму айцец Рыгор Місяюк з Праваслаўнай епархіі. Сказаў ён, між іншым, што сёння Каталіцкі касцёл выкарыстоўвае тую сітуацыю, якая склалася на ўсходзе пасля 75-ці гадоў бальшавізму. Зверствы камуністаў давялі да гібелі ўсю праваслаўную эліту. Сённяшнюю місію Ватыкана айцец Місяюк назваў таптаннем магілаў ахвяраў бальшавіцкіх злачынстваў.

Дыскусія на канферэнцыі праўдападобна пераканала ўсіх, што „талерантнасць” гэта не толькі нейкая „idèe fixe”, але адлюстраванне нашых штодзённых адносін да другога чалавека і яго іншасці — светапогляду, веравызнання, нацыянальнасці і ўсіх яго прыкметаў.

**Я. М.**

# ФАБІЯН АКІНЧЫЦ І ЯГОНЫ ЛЁС

*Працяг са стар. 1*

прамку развіваліся ягоныя палітычна-грамадскія погляды. Вельмі заблытаным і малавядомым было жыццё Акінчыца ў 1917-1923 гадах.

У час працэсу Грамады ў 1927 годзе, Акінчыц пра сваё мінулае скажа наступныя словы: „Пасля бальшавіцкай рэвалюцыі застаўся я ў Расеі, працуючы ў школьніцтве настаўнікам. З 1922 да 1923 года быў кіраўніком сярэдняй сялянскай школы ў Чарнігаўскай губерні. У арміі ні за цара, ні за бальшавікоў не служыў. За ўвесь час ад 1917 па 1923 год не займаўся палітыкай, быў беспартыйны”. Зусім іншая справа — ці можна было, быўшы абвінавачаным у камунізме і антыдзяржаўнай дзейнасці, прызнавацца да найменшага хаця б удзелу ў бальшавіцкай рэвалюцыі? Асабліва, калі санацыйны суд закідаў яму, што ў 1917 годзе быў ён прэзідэнтам Навагрудка, а потым у бальшавіцкай Расеі займаў пасаду ў рэвалюцыйным трыбунале. У падобным напрамку пайшлі і выказванні эміграцыйнага дзеяча В. Пануцэвіча, які ў часопісе „Беларуская Царква” ад 1965 года пацвердзіў удзел Акінчыца ў дзяржаўных органах бальшавіцкай бяспекі.

Зусім іншыя інфармацыі змяшчае прэсавы орган нацыянал-сацыялістаў „Новы Шлях” у 1937 годзе. У пададзенай там біяграфіі правадыра партыі чытаем, што Фабіян Акінчыц пасля заканчэння Пецярбургскага універсітэта (1913 год) працаваў адвакатам, а пры Керанскім стаў міравым суддзёю. Пасля бальшавіцкай рэвалюцыі быццам бы жыў у Кіеве, працуючы рабочым, і толькі пасля пачаў настаўнічаць. На чыім баку праўда — цяжка адказаць. Гэты бурлівы перыяд у ягоным жыцці вымагае сур'ёзных доследаў у менскіх і маскоўскіх архівах.

Да канца невядомыя прычыны вяртання Акінчыца ў Заходнюю Беларусь у 1923 годзе. На працэсе тлумачыў ён свой прыезд у ІІ Рэчыпаспалітую просьбамі бацькоў, аднак некалькі гадоў пазней заявіў, што прычыны вяртання — гэта бальшавіцкія парадкі, якіх ён не мог перанесці. Пасля пераезду атрымаў ён пасаду кіраўніка пачатковай школы ў Засулях Стаўбцоўскага павета. Будучы юрыстам, на пачатку 1926 года адкрыў у Стоўбцах свае бюро пісання прашэнняў і юрыдычных парад. Смела можна сцвердзіць, што ў 1923-1925 гадах палітычнай дзейнасцю ўвогуле ён не займаўся. Натуральным узнікае пытанне: калі Акінчыц стаў свядомым беларусам, бо да 1926 года не быў ён вядомы на беларускім палітычным панадворку. Пераломным момантам было, несумненна, вяртанне ў Польшчу і падзеі, якія адбываліся ў гэтым часе ў Заходняй Беларусі. Узнікненне беларускага палітычнага руху, узрост нацыянальнай свядомасці і радыкальных памкненняў сялянства, вось гэта тое, з чым сустрэўся Акінчыц, вярнуўшыся ў бацькоўскую хату. Навагрудскі ваявода (Стоўбцы былі ў гэтым ваяводстве) у 1923 г. вось так піша пра настроі беларускага грамадства: „Według zdania Białorusinów, żaden Polski gabinet ministrów bądź rząd Witosa, czy jakikolwiek inny, nic nie zdoła dla nich dać. Uważając, że w normalnych warunkach naród białoruski nie zdoła uzyskać swej niezależności, działacze białoruscy z łapczywością chwytają się jakichś większych zdarzeń europejskiego znaczenia”.

Сам Акінчыц скажа, што пачаў лічыць сябе беларусам пасля вяртання, калі зразумеў, што ён нарадзіўся на беларускай зямлі і таму ён беларус. Калі жыў у Расеі, нацыянальная справа яго яшчэ не цікавіла.

У бюро юрыдычных парадаў Акінчыц сустракаўся з беларускім насельніцтвам, якое часта цярпела з боку польскіх адміністрацыйных уладаў. У гэтым часе сяляне з ягонай роднай вёскі Акінчыцы вялі спор з адміністрацыяй князя Радзівіла. Гэтую справу ўздымалі ў Сейме паслы (існуючага ад 1925 г.) Беларуска-сялянска-работніцкага клуба. І вось у гэтым часе даходзіць да знаёмства Акінчыца з паслом Юрым Сабалеўскім. На эфекты сяброўства не трэба было доўга чакаць. У жніўні 1926 г. Акінчыц рашаецца ўступіць у Беларускую сялянска-работніцкую грамаду.

Сваё рашэнне абгрунтаваў наступнымі словамі: „Лічу, што як селянін з вышэйшай адукацыяй, маю абавязак працаваць для народа і арганізаваць яго, згодна з канстытуцыяй на тое, каб сялянства мела ўплыў на палітыку дзяржавы і самаўрадаў. Ведаючы пра ўплывы камунізму сярод сялян, лічыў я, што народ можа заакцэптаваць партыю з радыкальнай грамадскай праграмай, якая б адказвала патрэбам сялян у справе зямлі, удзелу ў самаўрадах і выходзіла б насупраць нацыянальным інтарэсам”. Эсараўскі ідэал маладосці — глыбокі грамадскі радыкалізм, мае стаць у далейшым асновай ягонай палітычнай платформы. Аднак дзейнасць у Грамадзе хоча весці згодна з канстытуцыйнымі і юрыдычнымі законамі. Несумненна, уплыў на такое стаўленне мелі дасведчанні з бальшавіцкай Расеі. Усведаміў ён сабе тады, чым можа быць грамадства, у якім зусім не дзейнічаюць законы апрача аднаго — „таварыша Маўзера”. І, відаць, таму Фабіян Акінчыц, член вузкага круга кіраўніцтва Грамады, не ўступіць пазней, як ягоныя сябры, у рады Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

*Працяг будзе.*

**ЯЎГЕН ВАПА**

# ЦАРКВА НА ПАПЯЛІШЧЫ

27 жніўня, напярэдадні прыхадскога свята Успення, Мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Васіль у прысутнасці шматлікага праваслаўнага духавенства, высвяціў новую царкву ў Чыжах.

Трагедыя здарылася роўна 9 гадоў таму назад. Уначы з 28 на 29 жніўня 1984 года занялася агнём драўляная царква XVII стагоддзя — адна са старэйшых у нас. Уратаваць удалося толькі дзве іконкі з прытвора і два Евангеллі (яшчэ адна ікона ацалела, бо якраз знаходзілася на рэстаўрацыі ў Варшаве). А так — адзін толькі попел застаўся.

Хаця гора было вялікае, людзі ў Чыжах духам не ўпалі — адразу вырашылі, што пабудуюць новую царкву. Толькі, вядома, пабудова зацягнецца шмат гадоў, а дзесьці ж і зараз трэба маліцца. Вырашылі часова перавезці старую гайнаўскую царкву (там ужо багаслужбы вяліся ў новай), што і зрабілі, атрымаўшы згоду благачыннага. Царква з Гайнаўкі стаяла ў Чыжах ужо позняй восенню таго ж года, побач пажарышча. А на месцы старой царквы можна было ўжо пачаць пабудову новага храма.

Сапраўдная пабудова распачалася ў 1986 годзе. У той час настаяцелем Чыжоўскага прыхода быў айцец Уладзімір Цыбулінскі (у Чыжах 23 гады з паловаю), пры ім здарылася няшчасце, ён і арганізаваў пабудову. Цяперашні настаяцель Чыжоўскага прыхода, а. Ян Раманчук (3-ці год тут) падкрэслівае вялікае заангажаванне сваіх прыхаджан у працу каля царквы, іхнюю ахвярнасць. Цяпер цяжка нават падлічыць кошт пабудовы, але напэўна назбіраецца больш за 10 мільярдаў злотых (па сённяшніх цэнах). Напачатак была пэўная сума са страхоўкі за спаленую царкву, а астатнія грошы людзі сабралі самі. Аблажыліся дабраахвотна падаткамі (сёлета, для прыкладу, па 300 тысяч злотых, а ў мінулым годзе — па 250 тысяч ад дому), хадзілі калядаваць у сябе і па суседніх прыходах (у гэтым годзе закалядавалі 127 мільёнаў, а ў мінулым — 125 мільёнаў). А колькі працы ўлажылі! Усе вокны зашклілі самі, падлогу палажылі, аднавілі агароджу вакол царквы і ўпарадкавалі царкоўны пляц — гэта толькі некаторыя важнейшыя работы. Нават дзеці са школы дапамагалі разгружваць цэглу.

Айцец Ян Раманчук кажа: „Старшынямі Грамадскага камітэта пабудовы былі, па чарзе: Ян Саўчук, Васіль Астапчук і цяперака Рыгор Якімюк, але, каб усім заангажаваным падзякаваць трэба было б пералічыць, бадай, увесь прыход. Я яшчэ раз хачу падкрэсліць, што вялікая, вельмі вялікая падзяка належыцца ўсім маім прыхаджанам, у якіх я ніколі не расчараваўся”.

Хаця царква ўжо высвячана і шмат чым можна ў ёй пахваліцца — іканастасам, зробленым мастакамі з Менска, камплектам 7 званоў з Масквы, — то ўсё яшчэ шмат працы наперадзе. Бацюшка лічыць, што да поўнага заканчэння пабудовы спатрэбіцца яшчэ з дзевяць гадоў. Цяпер чыжавяне рыхтуюцца да роспісу інтэр'ера царквы фрэскамі, хочуць уставіць вітражы ў вокны, давесці да парадку ніжнюю царкву, дзе яшчэ нічога не рабілася і выканаць мноства меншых парадкавых прац.

Ведаючы заангажаванне і ахвярнасць нашых людзей, я ўпэўнены, што чыжоўская царква будзе не толькі адной з найвялікшых цэркваў на Беласточчыне, але і адной з найпрыгажэйшых.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**



*Успенская царква ў Чыжах.*

## АДГАЛОСКІ

# ЯШЧЭ РАЗ АБ БРАТАХ ХРЫСТА

W 33 n-rze „Niwy” z dn. 15.08.1993 r. odpowiadając na mój artykuł, p. Szatyłowicz użył słów ubliżająco-krzywdzących w stosunku do teologów katolickich w wyjaśnieniu swego przekonania.

W 30 n-rze „Niwy” w odpowiedzi na zdanie autora ***Каталіцкія тэолагі імкнуцца даказаць***, napisałem: „Nikt nikogo nie przekonuje ani niczego nie ukrywa”. Z treści artykułu wynikało, że gdzieś odbyło się sympozjum naukowe teologów (może europejskich) i tam właśnie, wbrew orzeczeniu teologów różnych wyznań i światopoglądów, katoliccy teologowie ***імкнуліся даказаць***.

Nie pomyślałem o tym, że panu Szatyłowiczowi chodzi o komentarz do Ewangelii św. Mateusza oraz o słowa Ewangelii, które podaje w 33 n-rze „Niwy”, zacytowany z „Biblii Tysiąclecia”, Mateusz (12:46): ***а ўнізе ёсць зноска:*** *„Nie bracia rodzeni, lecz stryjeczni lub cioteczni, albo kuzyni. Język hebrajski nie ma osobnych wyrazów na oznaczenie bliższych krewnych”.* ***Я напісаў тады, што ніводнае Евангелле не было напісана на арамейскай мове (а тым больш на старажытнаяўрэйскай), а толькі на грэчаскай, а ў грэчаскай мове ёсць адзельныя словы, якія абазначаюць дваюраднага і роднага брата. Ці ж аўтар гэтай зноскі не імкнецца даказаць тэзу, аб якой я пісаў, нават не вельмі чыстымі метадамі, разлічваючы на тое, што чытачы „Біблії” не ведаюць, на якой мове яе пісалі.*** Ciekawi nas wszystkich, co na ten temat dane naukowe i historyczne? W „Biblii Tysiąclecia” str. 1124 napisano: Wzmianka zaś o języku hebrajskim nie stoi w sprzeczności z dość powszechnym dziś przekonaniem — opartym zresztą na Dz. 21, 40 oraz na dokumentach qumrańskich — że Ewangelia Mateusza była pierwotnie zredagowana po aramejsku. Oryginał aramejski musiał jednak zaginąć dość wcześnie, skoro Ojcowie Kościoła z II wieku po Chrystusie znają już tylko grecki p r z e k ł a d Mateusza, lub mówiąc dokładniej: grecką parafrazę aramejskiego tekstu pierwszej Ewangelii.

U św. Marka str. 1158, ... i dlatego wszystkie przejęte z tradycji ustnej wyrażenia aramejskie są tłumaczone na język grecki (np. 5, 41; 7, 34; 14, 36).

U św. Jana str. 1214: Język Ewangelii Jana jest dość ubogi, słownictwo bardzo niezróżnicowane, styl bezpretensjonalny, czasem wręcz niedbały, obfitujący w liczne semityzmy, skąd zrodziło się nawet przypuszczenie, że czwarta Ewangelia była w całości po aramejsku. Tyle w „Biblii Tysiąclecia”.

A co na ten temat mówi „Biblia Moskowskoj Patriarchii”?

**Библия Ветхого и Нового Завета 1973. Издательство „Жизнь с Богом” Avenue de la Couronne, 206 1050 Брюссель. С разрешения Церковных Властей. Синодальный перевод с изданий Московской Патриархии 1956-1968 г.г.**

**Список древнейших рукописей и книг Ветхого и Нового Завета:**

**— Эпоха до нашей эры: Папирусы 494-407 г.г., III в., II в.**

**— Пергаменты Кумрана, II в.**

**— Эпоха пасле нашей эры: ок. 130 г. Таннаимов (учители Мишны — II-III в.в.), Амореев (учители Талмуда IV-V в.в.), стр. 2266**

**Переводы:**

**— Еврейские, более поздные п е р е в о д ы на греческий язык, ок. 140-180 г.г.**

**— Сирийские переводы (Пешито), II в. — 1821 г. — 1852 г.**

**— Арамейские переводы (Таргумин), VII-IX вв., стр. 2267.**

**— Латинские переводы, I в., III в., IV в.**

**— Коптские переводы, III в., V в.**

**— Славянский перевод, IX в., Свв. Кирилл и Мефодий**

**— Острожская Библия — первопечатная, 1581 г.**

**— Московская Библия, 1663 г.**

**— Елизаветинская (слав. исправленная) Библия, которой мы пользуемся с незначительными изменениями: 1751 г., 1759 г., 1872 г., 1913 г.**

**Русский перевод: Библия (пер. 4-х Дух. Акад.), изд. Св. Синода, 1876 г.; Библия (пер. 4-х Дух. Акад.), изд. Моск. Патриархии, 1956 г. — 1968 г., стр. 2268.**

**Евангелие от Матфея, стр. 2015: Исторически доказано, что первое Евангелие написано именно Матфеем. Первоначальный арамейский текст Евангелия от Матфея утерян. До нас дошел только весьма древний греческий п е р е в о д, упоминаемый уже в творениях „апостольских мужей”, современных Апостолам христианских писателей (св. Клемент Рим., св. Игнатий, св. Поликарп и др.).**

**Евангелие от Марка, стр. 2020: Поэтому он объясняет своим читателям географию Палестины, иудейские обычаи, арамейские выражения.**

**Евагнелие от Луки, стр. 2022: Источниками сообщаемых сведений служили для Евангелиста, как говорит он сам, рассказы живых лиц, „бывших с самого начала очевидцами и служителями Слова (1, 2). С ними встречался он в обществе Павла — и в Иерусалиме, и в Кесарии. В основе (того) повествования о младенчестве Иисуса (главы I и II), лежит, по-видимому, записанное на арамейском языке священное предание, в котором слышится ещё голос самой Девы Марии. Кроме того, пользовался Лука и раньше написанными Евангелиями.**

I dalej o braciach i siostrach Chrystusa:

Ewangelia Chrystusowa jest jedna, napisana przez 4-ch autorów. O braciach Chrystusa napisał św. Marek (3, 31-35), św. Łukasz (8, 19-21). Pan Szatyłowicz zacytował ze św. Mateusza tylko rozdz. 12, 46-50. Mógł Pan przeczytać trochę dalej, bo w rozdz. 13, 53-57 są podane nawet imiona braci. Chrześcijanin czytający Ewangelię zwraca szczególną uwagę na życie i działalność Chrystusa, mniej na to czy Chrystus miał braci: **родных, дваюрадных ці траюрадных.** Serce ludzkie szuka Prawdy i znajduje ją tam, gdzie jest.

A co na ten temat „Ewangelije Moskowskoj Patriarchii”?

**Матфей 12, 46-47: „Когда же Он ещё говорил народу, Матерь Твоя и братья Твои стоят вне, желая говорить с Тобою”. стр. 1518. И следующее. Матфей 13. 54-56: „И придя в Отечество Свое, учил их в синагоге их, так что они изумлялись и говорили: откуда у Него такая премудрость и сила? Не плотников ли Он сын? Не Его ли Мать называется Мария, а братия Его Иаков и Иосий, и Иуда? И сестры Его не все ли между нами?” (стр. 1520).**

**На стар. 2017, ёсць зноска: „Братъ Его: В тогдашнем разговорном языке, как и в Св. Писании, словами „братья” и „сестры” часто обозначались д в о ю р о д н ы е братья и сестры. Выше естественно родства стоит родство духовное, средоточием которого является Иисус Христос”.** Jak z tego wynika, nawet Moskowskaja Patriarchija **„не вельмі чыстымі метадамі імкнецца даказаць гэту тэзу”.**

Bardzo serdecznie przepraszam Prześwietną Moskiewską Patriarchię i Jej Teologów, że użyłem takiego zdania. Takimi słowami obdarzył Pan Szatyłowicz teologów katolickich za podobny komentarz o braciach Chrystusa a nie inny, według życzenia, że byli to bracia rodzeni.

Nad „Biblią Tysiąclecia” pracowało 67 teologów. Nad Biblią „Wietchogo i Nowogo Zawieta” 113 teologów. Ci ludzie studiowali na różnych uniwersytetach świata. Zapoznali się i wyuczyli się najstarszych języków (sprzed i naszej ery), które są dostępne we współczesnym naukowym świecie. Czy można podać w wątpliwość ich wysiłek i prace naukowe? Czy oni wszyscy **не вельмі чыстымі метадамі імкнуцца даказаць...?**

**br. BRONISŁAW KAWECKI ofm.**

# БЕЛАРУСЬ — СКРЫЖАВАННЕ ЧУЖЫХ ІНТАРЭСАЎ

Цяжка знайсці іншую такую краіну, дзе паўсюдна кідаюцца ў вочы векавыя сляды і наступствы чужых інтарэсаў, як Беларусь. Хопіць пацікавіцца, каб пераканацца, што згаданая праблема ўвесь час жывая і неабыякавая прагрэсіўнай частцы грамадства, асабліва зацікаўленай гісторыяй народа, ды самых гісторыкаў, якія паспяхова працуюць над стварэннем праўдзівай суверэннай гістарыяграфіі. Апрача папулярна-навуковых артыкулаў гістарычнага характару як напр. „Пошукі ці вяртанне” Васіля Аўраменкі (ЛіМ, н-р 26), „Гісторыя нашага імя” Вітаўта Чаропкі (ЛіМ, н-р 26, 27), ці „Сяліба на скрыжаванні” В. Галубовіча (ЛіМ н-р 27), прэса насычана інфармацыямі аб жывых слядах няслаўных чужацкіх уплываў, сённяшняй іх прысутнасці і супраціўленні ім. На адной старонцы ЛіМа (н-р 26) памешчаны побач сябе тры кароткія, але як жа знамянальныя для беларускага лёсу, інфармацыі:

1. „Бухгальтэрыя смерці” — пра статыстычнае педанцтва нямецкіх жывадзёраў з СД адносна іх ахвяраў на Віцебшчыне ў 1942 г.

2. У нататцы пад загалоўкам „Памяці ахвяр бальшавізму” Паўлюк Быкоўскі коратка інфармуе аб жалобнай беларуска-літоўскай працэсіі дарогай смерці з Ігумена, што адбылася 26 чэрвеня ў 52 гадавіну расстрэлу на гэтай дарозе беларускіх і літоўскіх вязняў без суда і прыгавору, уцякаючымі з Беларусі падначаленымі Берыі.

3. Побач нататкі змешчаны здымак з іншай падзеі — крыжовага ходу ў Слуцку, прысвечанага 200-годдзю менскай праваслаўнай епархіі: „...ці згадаў хто-небудзь падчас святкавання 200-годдзя Менскай епархіі аб тым, што яна была створана ў першы ж год расейскай акупацыі як частка апарату ідэалагічнага ўплыву і кантролю насельніцтва...” („Свабода” н-р 7 ад 1—15 ліпеня 1993 г.). У той жа „Свабодзе” (на 3 стар.) Алесь Дашчынскі звяртае ўвагу на спаборніцтва між ксяндзоўскай паланізацыйнай дзейнасцю і савецызацыйнымі практыкамі мясцовай улады ў Паставах. Піша ён, што адзін з ксяндзоў „вывешваў польскія сцягі ў касцёле, у сваіх казаннях сцвярджаў, што беларусы — непрыстойныя людзі”. І далей: „Што да пастаўскіх уладаў, то ў іх свае абразы. У габінэтах вісяць ленінскія партрэты...”

Нямала ўвагі прысвячае прэса паланізацыйнай акцыі пад шыльдай канфесійнай дзейнасці Каталіцкага касцёла, імпартаванай, між ншым, з Польшчы. На 4 стар. вышэйзгаданай „Свабоды” Андрэй Галіцкі цытуе ў сваёй пошце сцверджанне старшыні Бяльска-Падляшскага камітэта адбудовы касцёлаў на Беларусі — Томаша Клімонскага, які заявіў: „Мы ўсведамляем, што адбудова касцёла апрача чыста рэлігійных мэтаў стымулюе адраджэнне польскасці на тых землях”.

Францішак Нёманец у артыкуле „Свята Божага Цела ў Менску” (ЛіМ, н-р 26) апісвае правакацыйныя паводзіны канадскага паляка А. Прушынскага ў часе працэсіі і выказвае абурэнне фактам заглушання беларускамоўных малітваў нейкай радыёгрупай. Аўтар артыкула піша: „Такія выхадкі не ад каталіцызму і не ад рэлігіі. Крыўдна, калі хто жадае гэтак „прапаведваць” польскую мову для католікаў”.

Асаблівасцю з'яўляюцца супярэчнасці між праявай дэмакратычнай паставы і рэакцыйнага сталінізму ў дзяржаўнай прэсе. У нататцы пад загалоўкам „Сталінізм вяртаецца?” (Свабода, н-р 7) Лявон Градзюк піша, як сп. Міхась Белямук з Кліўленда (ЗША), які 19 чэрвеня г.г. атрымаў званне ганаровага члена Інстытута гісторыі БАН за навуковую і грамадскую дзейнасць, а „Звязда” апублікавала яго здымак як беларуса тыдня, літаральна праз тры дні быў беспадстаўна зняважаны іншай дзяржаўнай газетай — „Советской Белоруссией”.

На асаблівую ўвагу заслугоўвае канфлікт, які „яскрава адлюстроўвае супрацьстаянне беларускага і савецкага”, аб чым піша С.А. у рэпартажы „Падземны мітынг” (Пагоня н-р 19 ад 2—8 ліпеня 1993). Справа датычыць планаванага на 26 чэрвеня 1993 г. сходу ў гонар 50-й гадавіны заснавання Саюза беларускай моладзі (СБМ), які меў адбыцца ў тэатры Я. Купалы ў Менску, ды напярэдадні быў забаронены ўрадам. Праблема, у маім перакананні, вымагае крыху шырэйшага асвятлення. СБМ — усё яшчэ „белая пляма” ў навейшай гісторыі Беларусі — быў 22 чэрвеня 1943 г. аб'яўлены як легальная арганізацыя ў вельмі складаных і цяжкіх умовах для Краіны. Беларусь была ахопленая паліцэйскім тэрорам нямецкай акупацыі. На яе тэрыторыі адначасна крыжаваліся інтарэсы Польшчы і Расеі, за якія змагалася збройнае падполле аднаго і другога боку. Кожны з ваюючых бакоў стараўся выкарыстаць для сваіх мэтаў перш за ўсё моладзь. Запалоханы тэрорам беларускі народ, пазбаўлены інтэлігенцыі, вынішчанай амаль дашчэнту Сталіным не ў сілах быў сарганізаваць збройнае супраціўленне акупантам. У такіх варунках кіраўніцтва беларускіх палітычных груповак незалежніцкай арыентацыі не бачыла іншай магчымасці, як толькі выкарыстаць акупацыйныя ўмовы для ахоўы насельніцтва, адраджэння нацыянальнай свядомасці, з'яднання народных сіл адбудовы асветы, культуры і да барацьбы за вызваленне краіны. Адносілася гэта галоўным чынам да моладзі, для якой узнік Саюз беларускай моладзі.

Свядомая той мінуўшчыны сучасная моладзь, згуртаваная, між іншым, у Задзіночанні беларускіх студэнтаў у Менску пастанавіла адкапаць з забыцця тую падзею, пашукаць належнае месца ёй у гісторыі. З гэтай мэтай і гатовіўся той вечар на 26 чэрвеня, нешта накшталт сімпозіума з удзелам некалькіх соцень чалавек розных поглядаў, прафесій, асабліва маладых людзей — студэнтаў, прадстаўнікоў навукі, а таксама і ўдзельнікаў ды сведкаў здарэнняў таго часу. У свабодным абмене думак, пагляда́ў, прыводзячы факты, сход меўся спрабаваць прыдбаць матэрыял гісторыкам, шукаючы адказ на пытанні, звязаныя з СБМ. Пытанняў тых узнікла нямала:

1. Ці ў той складанай сітуацыі была наогул патрэбная маладзёжная арганізацыя?

2. Ці была іншая рэальная магчымасць згуртаваць моладзь вакол праблемы нацыянальнай свядомасці за лёс Народа, развіцця нацыянальнай культуры, асветы ў тым часе?

3. У якой ступені тадышнім беларускім палітычным дзеячам адраджэнскага напрамку ўдалося ўвесці ў статут СБМ тыя элементы патрыятычнага зместу?

4. На колькі ўдалося СБМ зберагчы моладзь ад выкарыстання яе для чужых інтарэсаў, ідэй варожых беларускаму адраджэнню і з якім поспехам рэалізаваліся вышэйзгаданыя напрамкі выхавання і пастановы статута СБМ

5. Як ацаніць вынікі намаганняў кіраўніцтва СБМ палепшыць умовы жыцця і ўзгадавання вывезеных прымусова ў Нямеччыну акупантам дзяцей і падлеткаў з Беларусі?

6. У чым заключаўся феномен хуткага росту СБМ, яго бяспрыкладнай масавасці ў варунках дабравольнай прыналежнасці і з другога боку — варожай яму прапаганды чужога падполля?

7. Наколькі апраўдаліся ў паўвяковай гісторыі: дзейнасць самога кіраўніцтва СБМ, яго радавых удзельнікаў, ахвяра іх казні ці мукаў у сталінскіх канцлагерах альбо выгнанне на чужыну?

Сам факт пошукаў аб'ектыўнага адказу на гэтыя і шмат іншых пытанняў супрацьставіцца ідэі рэанімацыі савецкай імперыі на Беларусі. Пад націскам рэакцыйных апосталаў той рэанімацыі ўрад знішчыў спробу пошукаў гістарычнай праўды пра СБМ.

У такім выпадку на месцы вызначанага сходу пад тэатрам студэнты паставілі пікеты з лозунгамі: „Не фашызму — не камунізму”, „Ганьба ўраду”, „Не фальшаваць гісторыю”. Надыходзячых людзей пад праліўным дажджом, пікетчыкі кіравалі ў падземны праход. Самі з пікетамі моклі-моклі, але стаялі. Старанна падрыхтаваны паважны сход замяніўся такім чынам у „падземны мітынг”, дзе губляўся сэнс недачутых прысутнымі выказванняў і пасля перайначаных рэпарцёрамі. Не абышлося і без эмоцый, але не настолькі, каб усхваляваць прысутных, тактоўна спакойных, афіцэраў міліцыі і іх падуладных.

У самым факце забароны сходу, адбягаючым ад прынцыпаў дэмакратыі, звычайна адгукнулася старажытная праўда: „Quius regio, eius religio”. На гэтым можна было б і закончыць, каб не тое, што падбудаваныя рашэннем улады рэаніматары імперыяльнага ладу (ці хутчэй — бязладдзя) выкарысталі ўсемагчымыя сродкі публічнай інфармацыі, нападаючы на СБМ патокам паклёпаў узятых жыўцом з бальшавіцкай прапаганды, адабраўшы голас другому баку. Людзі добрай волі „кормленыя” дзесяцігоддзямі прапагандай хлусні зразумелі, аднак, яе сэнс правільна. Аптымістычна настроены старшыня ЗБС Аляксей Глушко нават палічыў сэнсоўным падзякаваць у прэсе ўраду за рэкламу неадбытага сходу, прысвечанага СБМ.

Вось некалькі заўважаных на працягу некалькіх дзён, не патрабуючых каментарыя, прыкладаў цяжкіх родаў незалежнасці Краіны і дэмакратыі. Цяжкіх — але непазбежных.

**ЯНКА ЖАМОЙЦІН**

# БЕЛАРУСЫ ЎКРАІНСКАГА ПАЛЕСЬСЯ

Памятаю, у дзяцінстве на торжышчах Пінска сустракаў багата машын з украінскімі нумарамі. Калі пытаў тату, чаму украінскія людзі едуць да нас, чуў у адказ: гэта ж нашы людзі. Яны едуць сюды не толькі гандляваць, але й сустрэцца з роднымі, пагаманіць, пагасьцяваць.

Скажу шчыра, мяне малога вельмі зьдзіўляла тое, што украінцы ня едуць да сябе ў Кіеў ці Роўна шукаць сваякоў, а наадварот, находзяць іх на Беларусі.

Калі падрос, любіў слухаць аповяды аднавяскоўцаў аб тым, што ў іх засталіся браты ці сёстры на Валыншчыне ці Роўеншчыне. Звычайна гэта былі успаміны, якія тычыліся пасьляваеннага часу. Аднавяскоўцы ўспаміналі, як цяжка й складана жылося родным на Украіне. Іх бязьлітасна нішчылі бандэраўцы, асабліва пакутавалі тыя, хто па веравызнаньні быў каталіком.

Ня вельмі шэнціла й праваслаўным, асабліва калі на тэрыторыі Заходняй Украіны пачалі зьяўляцца вайсковыя фармiраваньні бандэраўцаў.

Успамінае жыхарка ўкраінскага горада Любяшова Алена Дзікавіцкая.

Наш асяродак шляхты займаў добры кавалак Палесься. Ад Пінска ён цягнуўся ў глыбкі краю аж да Луцка. Землі належылі шляхце, і яна тут гаспадарыла на працягу стагоддзяў.

Мой бацька яшчэ за польскім часам купіў у пана непадалёк Любяшова маёнтак Дзеравок. Сям'я пераехала туды ў 1934 годзе. Месца было цудоўнае: возера, дуброва, луг, які кожную вясну заліваўся вадой. Мы, дзеці, ахвотна гулялі па гэтых цудоўных мясьцінах. Калі выбухнула вайна, усё перамянілася. Аднекуль зьявіліся ўзброеныя банды, якія пачалі рабаваць гаспадаркі беларусаў, габрэяў, палякаў. Каб бараніць сям'ю ад гэнацыду, бацькі пераехалі зноўку да Любяшова. Сюды ж пачалі зьяжджацца й іншыя сем'і, якія расказвалі жудасныя гісторыі пра зьдзекі ўзброеных бандытаў над усімі, хто ня быў украінцам. З кожным днём прыходзілі ўсё больш жахлівыя чуткі. Пра жанчын, якім адрэзалі грудзі, пра дзяцей, якіх падкідвалі ўверх і лавілі на багнеты. Памятаю добра, што нават немцы, якія напачатку падтрымлівалі амбіцыі ўкраінцаў, пацiскалі плячыма.

Неяк ноччу да нас пастукалі. Бацька адчыніў, гэта быў наш сусед па маёнтку спадар Навак. Яго доўга катавалі бандыты, а потым зусім голага пусьцілі, маўляў, усё роўна загіне на марозе. Але спадар Навак вытрымаў і змог дайсьці да нашае хаты. Мы яго абагрэлі, накармілі, далі вопратку. Далейшы лёс суседа мне невядомы.

І пасьля вайны жыць было цяжка. Бацькі спадзяваліся, што землі абавязкова аддадуць асяродку пінскай шляхты, і яны адыдуць да Беларусі. Здарылася наадварот: усе апынуліся ў складзе Украіны. Дзесьці адразу пасьля вайны пачалася гвалтоўная ўкраінізацыя.

Да вайны ў школе настаўніца казала, што на землях каля Луцка й Ковеля пражывае прыкладна сорак тысяч беларускай шляхты. Фактычна ўсіх за які-небудзь месяц зрабілі украінцамі. Хто не пажадаў быць украінцам, яшчэ доўга адчуваў варожасьць да сябе. Гэта былі сьмелыя крокі. Нашу сям'ю ўтрымлівалі беларускія карані. У бацькоў захаваліся дакументы на ўладаньне зямлёй з гербам і пячаткай Віленскага зямнога ўпраўленьня. Іх яшчэ ў сямнаццатым стагоддзі атрымаў прапрадзед. Тата казаў, што страціць нацыянальнасьць — значыць страціць гістарычную спадчыну. Гэтага ён не пажадаў рабіць.

Дарэчы, наша сям'я была не адна. Мала-памалу й іншыя вярталі сваю гістарычную памяць. У шасьцідзесятых аб'ядналіся й напісалі ліст у цэка кампартыі Украіны, што мы беларусы й жадаем, каб нашы дзеці вывучалі гісторыю й беларускую мову. Адказу прыйшлося чакаць чвэрць стагоддзя. Толькі калі ў дзевяностым годзе ў Львове вуніяты захапілі сьвяты храм, у Кіеве сур'ёзна падумалі аб праблеме нацыянальных меншасьцяў. Успомнілі, што ёсьць шмат беларусаў. Абяцалі стварыць у школах беларускія класы, але далей размовы справа не пайшла.

Безумоўна, наш лёс быў бы зусім іншы, каб беларускі ўрад хоць крыху цікавіўся лёсам беларусаў блізкага замежжа. Працы тут багата. Па-першае: ніхто й ніколі не лічыў, колькі беларусаў жыве на землях, якія некалі належылі іх продкам.

Я ведаю, што многія з тых, хто па волі Сталіна апынуўся чужым на зямлі продкаў, хацелі б вярнуць права на сваё гістарычнае паходжаньне...

Вось такія думкі не пакідаюць многіх беларусаў украінскага Палесься.

**Г. АСТРОЎСКІ**

*„Пагоня” н-р 19 (33) ад 2-8 ліпеня 1993 г.*

 

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**31 - 08 - 1989 г.**

Прамэкала, і нават учарашняя „Trybuna Ludu" (паблытаўшы ўсё з усім, робячы з ідэі беларускай культурнай аўтаноміі ўвогуле... аўтаномію!). Публікуюць тое Stanowisko... скарочанае ў параўнанні з ягоным праектам, да заявы або дэкларацыі. Галоўнае аднак жа адбылося: ідзе погалас, кінута *гарачую бульбу* беларускай аўтаномнасці ў польскія прыгаршчы, якім ужо няма як упусціць яе на зямлю!

Нешта падобнае адбудзецца і з інтэрв'ю Яна Максімюка „Што бачыцца з-за дзяржаўнай мяжы?" (У „ЛіМ" ад 25-га). Тая ж „бульба", у гэты разу жмені тым, хто хоча рабіць беларускую справу, сам не высоўваючыся пад удары (парадокс!). Максімюку лягчэй прабачаць у Беларускім клубе, бо яго асоба яшчэ няшмат значыць...

„Логіка сэрца, эмоцыя розуму" — дыскусія пра „Białoruś, Białoruś" у „Ніве" (аранжаваў Ян Чыквін). Ясь з Алегам, пакарыстаўшыся маімі хібамі ды лёгкасцю навуковых папрокаў пры разглядзе літаратурнага тэксту, дайшлі — асабліва Чык. — да яўна варожых нападак на мяне ўжо аж у асабістым плане. (...) Яны, так сказаць, паўтараюць *памылку Амільяновіча*, якая, замест пашкодзіць мне, радыкальна дапамагла (...)

**05 - 09 - 1989 г.**

Антось Міранові́ч расказваў пра сход Беларускага клуба, які адбыўся (3-га) у доме Лёніка Тарасэвіча (я выступіў з яго, у сувязі з тым інцыдэнтам). Злосць бярэ, што пераважаюць у ім тыповыя беларускія баязліўцы! Хочуць, каб разгортвалася беларуская палітычная дзейнасць, але... каб без іх (прымаюць пазіцыю рэцэнзентаў). Адзінае, што пасля іхнай — сапраўды клубнай толькі — актыўнасці застанецца, дык гэта часопіс „Кантакт", роблены Туронкам (...). „Кантакт", задуманы як публікатар нецэнзурных тэкстаў, застанецца ззаду нават за „ЛіМам" і „Нівай", і будзе адставаць (калі не прымарозяць „перастройку").

**06 - 09 - 1989 г.**

(...) У моладзі імгненна пашыраецца жаданне выездаў на Захад, проста ўцёкаў адсюль, што не можа не даводзіць да дэгенерацыі ў ёй патрэб для грамадскай дзейнасці (...)

Ціха ды шэра. Дай мужыкам грошай, дык...

**07 - 09 - 1989 г.**

(...) Пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. Яго павагу найлепей ахарактарызаваў сваім учынкам старшыня Барскі: кінуўрынуў прэзідыянтаў — *Вядзі ты, Сакрат, далей пасяджэнне, а я пабег на цягнік у Варшаву, павязу дамоў цяляціну, бо змарнуецца, запарыцца, засмярдзіць...*

Кажу — потым — Стахвюку: пішы пратакол пасяджэння так, як лічыш патрэбным для беларускай справы, ствараў сам фармальныя падставы; ніхто з іх цяпер не цікавіцца лёсам Таварыства, усе сядзяць, бы на гарачым вуголлі (...).

**09 - 09 - 1989 г.**

Сход выбарчага актыву (прыехалі 20 чалавек, прыблізна палова; буд. ГП БГКТ). Амаль усе БАСаўцы; з дарослых — Тапалянская з Трасцянкі, Мордань з Надзяй, Мірановічы (...).

Галоўнае вырашэнне — да канца года ўтварыць Беларускі грамадскі камітэт „Грамада" (арганізацыя класічнай партыі яшчэ доўга будзе немагчымай у нашым асяроддзі). Каардынатар падрыхтоўчых дзеянняў — Стахвюк (у яго некаторыя задаткі на лідэра). Дыскусія была ажыўленай; шмат спелых думак (трохі апіша яе Максімюк, у „Ніве" і інш.). (...)

**11 - 09 - 1989 г.**

Антось наладзіў сустрэчу з нейкай кіраўнічай „салідарніцкай" групай (— Кжыштафа Сахарчука?), якая круціцца каля тут. універсітэцкай Філіі. Заказваліся яны яму як прадстаўнікі Грамадзянскага Камітэта беластоцкай „Салідарнасці", але выявілася, што не зусім так, і цяжка было зарыентавацца, хто яны ў сапраўднасці... Іх — трох мужчын і жанчына, нас — Стахвюк, Мірановічы, Вапа, і я.

Прапануюць БГКу супрацоўніцтва, etc. Уся іхная гутарка, аднак, была даволі туманная і як бы рэзюмевала яе запытанне да нас з боку тае жанчыны, ці не імкнемся да злучэння... Беласточчыны з БССР?! Вось і ўсё. Непакоіць іх беларуская прасавецкая паласа на гэтым усходзе ПНР.

Наколькі рэальная з іх сіла? І наколькі сур'ёзная? Здаецца, не такіх кантактаў нам трэба.

*(Працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*—Stanowisko... — беластоцкі ВК ПАРП прыняў быў пазіцыйную пастанову, чыста дэкларатыўную, у пытанні нашай меншасці.*

# ДВА ФЕСТЫНЫ НАПРЫКАНЦЫ ЛЕТА

**Канчаецца летні сезон, а разам з ім праходзяць апошнія сёлетнія беларускія народныя фестыны на Беласточчыне. 28 жніўня (дзень Успення Божай Маці) і 29 жніўня (нядзеля) адбыліся яны ў Вярстку (Дубіцкая гміна) і ў Чыжах. На фестыны прыйшлі старыя і малыя, як кажуць у народзе.**

Выступалі аматары беларускай песні з Орлі, Старога Ляўкова (Нараўчанская гміна), Чыжоў. Новыя песні можна было пачуць у выкананні хору з Орлі ды спявачак і спевакоў з Чыжоў. Карыстаюцца яны перш за ўсё мясцовымі скарбамі народнай культуры, далучаюць іх да нацыянальнай культуры майстэрскім паказам. Зачароўвалі сваімі песнямі шырокавядомыя не толькі ў Беластоцкім краі харысты з Беластока — хор Беларускага грамадска-культурнага таварыства. На вярстоцкім і чыжоўскім канвееры беларускай песні мы пачулі цікавыя спевы ансамбля песні і танца „Церніца" ды вакальна-інструментальнага калектыву „Палац", абодва з Менска (Беларусь). Што праўда, замежныя гурты ў поўным складзе выступілі толькі ў Чыжах. Сваім вялікамастацкім выкананнем песняў і танцаў мянчане прывялі публіку ў вялікае захапленне. Спявалі так прыгожа — ажно радасна слухаць! Цудоўныя былі канцэрты! Усе артысты выступілі ў прыгожых народных беларускіх касцюмах. Ажно вочы, як кажуць, разбягаліся. На абодвух народных святкаваннях спевы і музыка несціхана працягваліся на сцэнах па тры гадзіны. У міжчасе вялася выбарчая кампанія кандыдатаў Беларускага сюза ў паслы. Прысутных на фестынах кандыдатаў прадстаўляла і рэкамендавала гледачам вядучая канцэрты Валянціна Ласкевіч.

Арганізаванне фестынаў — цяжкі высілак. Але ён аказаўся пад сілу вопытнаму ў гэтай дзялянцы кіраўніцтву Галоўнага праўлення БГКТ, ясная справа, не без помачы гмінных адміністрацыйных уладаў. У Дубіцкай і Чыжоўскай гмінах многае залежала перш за ўсё ад войтаў **Анатоля Паўлоўскага** і **Рыгора Мацкевіча** ды дырэктараў тамашніх цэнтраў культуры. Яны — добрыя арганізатары народнай справы.

Прадаваліся кніжкі на роднай мове ды касеты з запісамі песень у выкананні калектыву „Дубіны" (яны і зараз вельмі папулярныя і добра ўспрымаюцца слухачамі) і лаўрэатаў конкурсу „Беларуская песня'93". Свае кніжкі падпісвалі Віктар Шved і Янка Целушэцкі. А ўсё ў сумятні, такой кірмашнай.

Падчас чыжоўскага фестыну прадстаўнікі Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы ды кандыдат у паслы Пётр Крук вялі збор грошай. Публіка не была абыякавай — гэтаксама як і на фестынах у іншых мясцовасцях — да нашай супольнай справы.

Варта дадаць, што на сёлетніх беларускіх фестынах у Вярстку і ў Чыжах поўна было ларкоў з усялякай ежай (між іншым хто хацеў дык мог падсілкавацца гарачым супам і кілбаскамі) ды рознымі халоднымі напіткамі, а таксама гарачай гарбатай або натуральнай кавай! Выбірай што хочаш і частуйся. Мо таму і дадому не кожны спяшаўся.

**ЯНКА ЗАРЭЧНЫ**

## *Новыя вершы*

*БАРЫС РУСКО*

**РЭФЛЕКСІЯ**

Да ран дакранацца можа толькі лекар —
заглядаць у сярэдзіну,
шукаць прычыну,
ставіць дыягназ і лячыць.
Мастак пераносіць шрам на палатно —
калючка жыцця —
і ўпрыгожыць квітненнем абы-чаго.
А ўспаміны застануцца табе на роздум.
На апошнюю хвіліну.
На апошні глыток уздыху.

**АБАЖАННЕ**

Калені ўгінаюцца перад Зоркай,
скрытай за вуаллю страсці.
Радугай зіхаціць Яе покрыва,
і чымсьці яшчэ, чаго не магу ўведаць.
Заваражаны ўглядаюся ў халодную
фатаграфію.

**ВЕЦЕР КВЕТАК**

Вецер кветак вее ў Твой бок, Ахоўніца
сну.
Залацістыя валасы, як пер'і, нясе на
сонечны пляж.
На покрыве з пяску, вады і неба
будзеш мальвай у лісцях ласкі.

Галубы пацалункаў нясуць канверты
шаўкавістых слоў.

**ТЫ**

Тваё слова плавіць лёд чужасці,
далоні лепяць прытулак кветкавы,
вочы ластаўкамі шчабечуць любоў.
Без цябе акамянеў бы я ў глотцы дня.

**НЕМАЧ**

Ідзеш да дзвярэй каваных успамінамі.
Пад дзвярыма смужыцца серай яма.
А ногі з волава.
Падлога з твані.
А сцены з насарогаў.
А столь сцякае чарнатою.
Вецер за акном вее назад.

**ГОРАД НОЧЧУ**

Вокны. Рака застылых вокан.
Берагі шэрыя, як месячная ноч.
У вокнах нябачныя краты,
а ўнутры хлам,
а ў хламе твары як брук.

**У АДЗЕННІ БЛАЗНА**

Лічу ржавыя хмары і дажджы горкія,
як крыж.
Канаюць пажоўклыя ад бранхіту
дрэвы.
Галубка-статуйка ўслухоўваецца
ў пустыя шкарлупіны.
Плячыстая скала, што вякамі
напружвала мышцы
ў бойцы з морам, кучай каменных слёз
крэмзае пляж.
Не для мяне слодыч пунсовых губ
ружы.
Я, віноўнік і суддзя, зыходжу
з бясплоднага
лона ў безуваскрашэнне ў адзенні
блазна.

* * *

Бура спіраліць у смерч,
а смерч раве на ўсё горла.
Свет у раздзертай кашулі стаў на
калені
ля звалістых сценаў Каносы.

*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

**НАЛАНДА** [1/]

Калісь будыйскі цэнтр культуры
Шумеў, як вулей, як парад,
Ад гоману дрыжалі муры
Высокіх ступ манастыра.

Жылі тут тысячы манахаў
З суседніх вобласцей, краёў.
У школе сотні бедных жакаў [2/]
Тут адракліся ад багоў.

Сюды кагорты пілігрымаў
Прыходзілі аддаць паклон.
І праспявалі многа гімнаў
Паміж аздобленых калон.

Квітнела ў мурах тых культура,
Мастацтва, жывапіс, разьба,
Навука і літаратура,
Паэзія і варажба.

Будызм адсюль ззяў векі чарам
На частку ўсходнюю зямлі.
Пакуль муслім [3/] нажом, пажарам
Наланду ўсю не спапялі.

Ён манастыр зраўняў з зямлёю,
Пакінуў горад без жыцця
І ўсё, што тут было святое,
Саслаў у бездань забыцця.

І вось пасля тысячагоддзя [4/]
Зноў адраджаецца гара,
З яе, як парасткі, выходзяць
Руіны сцен манастыра.

Вядуцца жвавыя раскопкі,
Расце ўжо ступа над гарой,
Малыя ступы, быццам сопкі,
Стаяць навокал чарадой.

Пабудавалі галерэю
(Ступенькі пнуцца, як спіраль),
А вокны блізкага музея
Блішчаць у сонцы, быццам сталь.

Мясцовасць ціхая, як вёска,
Вісяць на дрэвах павукі,
Дамы ўсе жоўтыя, як з воску,
Сядзяць пры сцежках жабракі.

------------------------

1/ **Наланда** — вялікі будыйскі цэнтр культуры I-X стагоддзяў н.э., пакуль не быў спалены і разбураны мусульманамі. Апісаў яго кітайскі вучоны Чыен-Тсанд, які жыў там год у VII ст. н.э. Жыло тады там больш 10 тысяч манахаў.

2/ **жак** — студэнт. Вучылася там многа студэнтаў. Будысты лічаць, што багі, калі яны нават існуюць, не маюць ўплыву на чалавека.

3/ **муслім** — мясцовая назва мусульманіна.

4/ У 1951 г. у Наландзе паўстаў археалагічны музей і пад кіраўніцтвам Міжнароднага цэнтра навукі будызму пачаліся раскопкі і адбудова манастыра. Адбудаваная ўжо Вялікая ступа, адкапаны малыя ступы. **Ступа** — сакральны будыйскі круглы будынак.

*АЎРОРА*

**У ПАГОНЮ!**

У пагоню, браты,
У пагоню хутчэй!
Ганіце тых, што
Адышлі ад нас далёка!

Коні ляцяць, як маланка —
Чуць на тысячы вёрст
Стук магутных капыт,
Іржанне злоснае, фыркат.

Гэй вы, адступнікі, здраднікі!
Чаму адракліся свайго?
Ці ж яно для вас лепшае,
Тое чужое, нязнанае?

Чуеце хуткі стукат капыт?
Чуеце крыкі суродзічаў?
Гоніць вас, і дагоніць,
Дагоніць вас сумленне!



 

# САМАКРЫТЫКА або ПОШУКІ ПРАЎДЫ

Мой сын вельмі абурыўся (і то не першы раз), калі прачытаў маю нататку п.з. „На адных надзелах" („Ніва", н-р 34) і сказаў:

— Тата, дакуль ты будзеш пісаць дурніцы ў „Ніву" і выхваляць „Салідарнасць" і цяперашні ўрад Польшчы? Цяпер жа ў нас правяць адны жулікі і прайдзісветы і ім пляваць на простага чалавека. Яны толькі імкнуцца да таго, каб збіць сабе капітал, абкрадаючы маёмасць краіны, а пасля, абяспечыўшы сваіх сынкоў і дочак, жыць разгульна да самай смерці. Пішаш, што чатыры гады дом будаваў, а былы начальнік гміны пакрысе „надзяляў" матэрыялы, каб „лячыць нервы" ў „яго" гміне. А сёння, пры Валэнсе, колькі гадоў такі дом будаваў бы? Найменш сорак! Дзе тут логіка? Тады, пры польскай камуне, нават незаможны чалавек мог, адчакаўшы ў чарзе, атрымаць кватэру ў гарадскім блёку. А сёння, каб такую атрымаць, трэба мець найменш каля 300 мільёнаў злотых, ды дзе іх такі чалавек знойдзе? Труба такому! А так званыя ў нас бізнесмены — гэта ў большасці жулікі і лайдакі. Успамінаеш эпоху Берута: яе цяперашнія маладыя людзі не помняць, а старыя ўжо на пенсіі і іх хвалююць іншыя справы. Людзі помняць толькі добрае, а добра было пры Герку; сам хіба добра ведаеш, бо акурат тады будаваў чатыры гады свой вялікі мураваны дом. І пабудаваў! А сёння? Навошта пісаць, што купіў адразу і самаход, і трактар? Сёння гэта не навіна, бо прагрэс ідзе наперад і ўсякага лому хапае, абы толькі грошы. Але ні самаход, ні трактар ніколі не зраўняецца з прыгожым будынкам. Трэба думаць лагічна! Ды навошта яшчэ псаваць рэпутацыю Панфілюкам, калі ўсе твае дзядзькі былі гарачымі і аддынымі камуністамі, а адзін з іх, Мяфодзій, нават адсядзеў за палітыку тры гады цяжкай турмы і нікога не выдаў. Твой блізкі сваяк, Трахім Панфілюк таксама адбыў тры гады цяжкай турмы пры гэтай праклятай санацыі, якую можна коратка падсумаваць: „brud, smród i ubóstwo". А такія, як Езяранскі, выхвальваюць санацыю, бо яны мелі і палацы, і багацце, якія ім камуністы забралі. А мы ж не жылі як людзі, ніхто з намі не лічыўся, ды і цяпер пачынаюць нас ужо тыкаць пальцамі. Не чапай нікога на старонках „Нівы": ні карэспандэнта, ні чытача!

Тут і жонка з дачкой умяшаліся ў размову, і ўсе на мяне! Жонка кажа:

— Хто піша ў „Ніву", мае сваю рацыю і не маеш права іх чапаць!

— Але я сваю рацыю таксама маю, — адказваю ёй.

— Г... варта твая рацыя! — незадаволена сказала жонка.

— Такога артыкула, як „На адных надзелах", ніхто з чытачоў „Нівы" не адобрыць, — сказаў сын, — у дурнях астанешся і не адзін з іх так цябе назаве.

— Але цяпер маем свабоду, — не здаюся я.

— Так, свабоду жулікам, якім можна свабодна абкрадаць дзяржаўную маёмасць. Польшча ніколі не будзе мець такога капіталізму, як Бельгія ці Нямеччына.

Хто мае рацыю? На маю думку, рацыя на баку майго сына. Аднаму сімпатыку „Салідарнасці" ў нашай вёсцы арганізацыя гэтая, замет дапамагчы, яшчэ мацней яго прыдушыла. Напрыклад, праца на пошце стала цяжэйшай, абавязкаў прыбаўляюць, а калі запратэстуеш, то скажуць: „Калі не падабаецца, звальняйся, на тваё месца дзесяцёх прыйдзе". Праца мне падабаецца, працую я ўжо тут 28 гадоў. Не падабаецца толькі некаторым, што я здаўна заангажаваўся ў беларускія справы і многа выпісваў, а цяпер прадаю „Ніву". І галасаваць пайду на беларусаў, асабліва на Пятра Багроўскага, бо ніхто нам не дапаможа: ні палякі, ні рускія, ні немцы і разлічваць трэба выключна толькі на свае сілы.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# ПЯТРУШКА

Пятрушка звычайная (*Petroselinum sativum* Hoffm.) гэта не надта патрабавальная двухгадовая травяністая расліна з мясістым белым коранем, прамымі разгалінаванымі сцябламі, дзіўна рассечаным лісцем і дробнымі кветачкамі.

Упершыню зацікавіліся гэтай раслінай жыхары старажытнай Элады і Рыма і назвалі яе „петраселенум" — растучая на камені. А палякі, захаваўшы лацінскі корань „петр", пачалі яе пяшчотна называць „пятрушкай". З польскай мовы назва гэта перайшла ў рускую і беларускую мовы.

Араматнае лісце пятрушкі спадабалася насельніцтву многіх краін свету і яе пачалі дадаваць у ежу ў якасці прыправы. А ў „зялёнай аптэцы" пятрушка здаўна лічыцца лячэбнай раслінай, паколькі як яе лісце, насенне, так і карэнні багатыя вітамінамі, эфірнымі масламі, гліказідамі і іншымі карыснымі спалучэннямі. І таму выкарыстоўвалася яна і выкарыстоўваецца для загойвання ран, узмацнення дзёсен, паляпшэння зроку, а асабліва ў якасці мачагоннага сродка.

У нас найчасцей вырошчваюць два віды пятрушкі. У адной — выкарыстоўваецца толькі зеляніна, а корань яе цвёрды і не прыдатны для спажывання. Другі від пятрушкі, які садзіцца ў Польшчы найчасцей, з'яўляецца як бы карэнным сартом: тут збіраюць і лісце, і карэнні. Неабходна памятаць, што зялёную пятрушку дадаюць толькі да звараных ужо страў; у свежым лісці знаходзіцца каля 0,1% вітаміна С, які, аднак, раскладаецца пры тэмпературы гатавання.

У якасці сыравіны збіраюць восенню ці ранняй вясной карэнні пятрушкі і сушаць іх у сушарнях пры тэмпературы 35° С. Атрымліваецца сыравіна — корань пятрушкі (*Radix Petroselini*). У канцы жніўня — верасні збіраюць таксама спелае насенне пятрушкі і сушаць яго ў цяністым і прадуўным месцы. Атрымліваецца насенне пятрушкі (*Fructus Petroselini*).

Пры карыстанні пятрушкай як зёлкамі неабходна памятаць, што занадта вялікія дозы або выкарыстоўванне на працягу доўгага часу экстрактаў з насення пятрушкі могуць у жанчын прывесці да боляў маткі, а нават выклікаць ці ўзмацняць менструацыю. Нельга прымаць іх цяжарным жанчынам і малым дзецям.

Як ужо было адзначана, прэпараты з карэнняў ці насення пятрушкі прымяняюцца перш за ўсё ў якасці мачагоннага лякарства — пры зменшаным выдзяленні мачы і ацёках, пры запальных станах нырак і мачавога пузыра, але таксама і пры парушэннях працы страўніка — кепскім апетыце, уздуццях, болях жывата. Экстракт з насення пятрушкі з'яўляецца адным з кампанентаў пасты *„Fitolizyna"* **(„Herbapol")**.

## НАПАР З КАРЭННЯЎ ПЯТРУШКІ

1 лыжку раздробленай сыравіны заліць паўтара шклянкамі кіпетню. Напарваць пад покрыўкай 15 мінут, настаяць яшчэ 10 мінут і працадзіць. Піць 2—3 разы ў дзень па 1/4—1/3 шклянкі паміж ядою як сродак мачагонны, ветрагонны, антысептычны. Варта адначасова прымаць па 1 таблетцы вітаміну В1.

## НАПАР З НАСЕННЯ ПЯТРУШКІ

Паўлыжкі насення заліць шклянкай кіпетню і напарваць пад покрыўкай 15 мінут. Настойваць яшчэ 10 мінут, тады працадзіць. Піць па 1—2 лыжкі 2—4 разы ў дзень паміж ядою ў тых жа выпадках, што і пры напары з карэння. Адначасова прымаць 2 разы ў дзень па 1 таблетцы вітаміну В1.

## ЗЁЛКІ ПРЫ ЗАПАЛЕННІ НЫРАК У ЦЯЖАРНЫХ ЖАНЧЫН

Змяшаць роўныя часткі карэнняў пятрушкі, лісця лопуху (*Arctium lappa* L.), лісця валошскага арэха, лісця крапівы, лісця бярозы і кветак наготкаў. Заліць дзве з паловай лыжкі зёлак у тэрмасе трыма шклянкамі кіпетню. Зачыніць тэрмас і настойваць 1 гадзіну. Піць па 2—3 шклянкі 3—4 разы ў дзень пры запальных станах мачавога тракту, а таксама рэўматызме ці высыпках на скуры.

**ЭСКУЛАП**

# ЛІСТЫ ДАНУТЫ БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВАЙ

**Добры дзень, Ада!**

Ада, я хацела б табе расказаць пра 10-ыя ўгодкі з дня смерці Ларысы Геніюш, якія адзначалі на яе магіле. Але ліст перарос бы ў аповесць. А пра духоўнасць Маці між іншым не гавораць. Скажу так. За дзесяць гадоў зніклі камуністы і стукачы, але ў Зэльве не шмат змянілася. Дробныя начальнікі ад культуры хацелі б зноў нам сваю "культуру" дэманстраваць. Святы там праводзяць, як і ў БССР. Так і чакаеш, што на пляцы знімуць Леніна з высокага пастамента і паставяць Ларысу Геніюш, а астатняе ўсё будзе гэтак сама, як было. Але... Кветкі ў яе гародчыку ўсё вылазяць з зямлі і цвітуць. Хоць іх карчуюць. Але ўсе гэтыя 10 гадоў яе творчасць друкавалі і з'яўляліся невядомыя новыя творы. І на яе магіле Іра Тукальская пачытала невядомы верш. У нас, дарэчы, няма яе зборніка "Маці і Сын". Ці магла б ты яго нам як-небудзь захаваць -- адзін асобнік?

Ада, мы цяпер найболей сядзім у Доме Элізы Ажэшкі. Тут добра працуецца і зручна -- усе міма нас ідуць на вакзал, з вакзала. У мяне так шмат рознай пісаніны -- тэксты ў Музей Багдановіча, надпісы. Карткі да кнігаў і экспанатаў. Экскурсіі. Расчытваю лісты бацькі, маці, цётак Максіма. Зараз чытаю ліст Вацлава Ластоўскага да Людвікі Сівіцкай у Варшаву. Лацінкай. Хуткапіс. Трэба гэта перапісаць, каб лёгка было прачытаць усім. Такая лёгкая, чыстая і прыемная работа, але днём шмат аднімае рамонт. Таму раблю ўсё па вечарах. Калі што, шукай мяне ці ў Доме Арэшчыхі ці ў Доме Максіма. А тэлефон у Саюзе пісьменнікаў 44-83-75 і той застаўся, 45-22-54 у Музеі.

**Твая Дануся**

І Алесь кланяецца Табе, і ўсім вам у "Ніве".

## Наша ПОШТА

**Галоўны Рэдактар „Нівы", Яўген Міранавіч!**

Чытаю „Ніву" ўжо 20 гадоў, ад дошкі да дошкі. Адпавядае мне нават гэтая шматлікасць палітычных поглядаў тыднёвіка. Прашу Вас толькі аб адно — перастаньце друкаваць гэтыя агідныя артыкулы падпісаныя „Сэрцайка". Думаю, што гэта якаясь жанчына і да таго старэйшая, бо ад дзесяці гадоў, як памятаю, піша тое самае і ў такі сам спосаб. Я таксама ўжо немаладая і клянуся, што вельмі мала ёсць такіх жанчын як ваша „Сэрцайка". Сама я вучыла сваіх дзяцей чытаць па-беларуску, думаю вучыць таксама ўнукі. Але як ім паказаць „Ніву" з такімі вульгарызмамі?!

Падумайце, Пан Рэдактар, і пра моладзь. Новы школьны год пачынаецца. Не дазвольце, каб яны чыталі такія тэксты.

**СТАНІСЛАВА ВАШКЕВІЧ**
**з Беластока**

Ад рэдакцыі:

**Паважаная спадарыня Станіслава!**

Ёсць людзі, асабліва жанчыны, што „Ніву" пачынаюць чытаць менавіта ад „Сардэчных тайнаў". Магу Вам толькі сказаць, што „Сэрцайка" запланавала апублікаваць у бліжэйшых нумарах — на пачатак школьнага года — „новы" цыкл лістоў, якія маюць выключна раманытчна-сентыментальны характатр. Нават калі Вашыя ўнукі выпадкова прачытаюць апошнюю старонку, не павінны мець іншых уражанняў, чым пасля фільма „Love Story".

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787. Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4183. Уладзімір Іванюк (Вітава) | — 100.000 зл. |
| 4184. Ахвяраванні сабраныя ў час Купалля ў Белавежы | — 1.297.250 зл. |
| 4185. Пётр Германюк (Аўгустаў) | — 1.000.000 зл. |
| 4186. Рыгор Іванюк (Кленікі) | — 20.000 зл. |
| 4187. Мікалай Халаловіч (Гайнаўка) | — 100.000 зл. |
| 4188. Праф. Томас Бэрд са ЗША | — 125 ам. дол. |
| 4189. Ф. Бартуль са ЗША | — 100 ам. дол. |
| 4190. Я. Запруднік са ЗША | — 100 ам. дол. |
| 4191. Я. Галубовіч са ЗША | — 100 ам. дол. |
| 4192. В. Русак са ЗША | — 50 ам. дол. |
| 4193. Ю. Касьцюкевіч са ЗША | — 50 ам. дол. |
| 4194. Ул. Русак са ЗША | — 40 ам. дол. |
| 4195. Л. Кажура са ЗША | — 40 ам. дол. |
| 4196. К. і М. Верабей са ЗША | — 30 ам. дол. |
| 4197. С. Мерляк са ЗША | — 25 ам. дол. |
| 4198. А. Міцкевіч са ЗША | — 25 ам. дол. |
| 4199. П. Пікулік са ЗША | — 25 ам. дол. |
| 4200. Б. Даніловіч са ЗША | — 20 ам. дол. |
| 4201. Ул. Курыла са ЗША | — 20 ам. дол. |
| 4202. Я. Азарка са ЗША | — 20 ам. дол. |
| 4203. М. Тулейка са ЗША | — 20 ам. дол. |
| 4204. С. Дударэвіч са ЗША | — 20 ам. дол. |
| 4205. М. Януш са ЗША | — 10 ам. дол. |
| 4206. В. Стома са ЗША | — 10 ам. дол. |
| 4207. П. Зыбайла са ЗША | — 10 ам. дол. |
| 4208. Ерамёнак са ЗША | — 10 ам. дол. |
| 4209. Я. і В. Яновічы са ЗША | — 10 ам. дол. |
| 4210. Я. Сапежынскі са ЗША | — 10 ам. дол. |
| 4211. Я. Літвіненка са ЗША | — 10 ам. дол. |
| 4212. П. Мельяновіч са ЗША | — 5 ам. дол. |

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


## Вершы Віктара Шведа

**ХАЧУ БЫЦЬ ДАРОСЛАЙ!**

Мама з панадворка доню
Ледзьве змагла паклікаць.
Запыталася: -- Сягоння
Ты хочаш быць вялікай?

Адказала маме Люда:
-- Мне нават нОччу сніцца,
Калі пудрыцца я буду,
Замест таго каб мыцца!

**РУКІ СТАМІЛА, ХЛОПЦАЎ МЫЛА**

Жонка азвалася да мужа,
Вярнуўшыся з работы:
-- Перад будынкам нашым лужы,
Страшэннае балота.

Я ўжо зусім не маю сілы,
Рукі баляць, і годзе.
Пяць хлапчукоў чужых памыла,
Пакуль знайшла Валодзю.

**БАБУЛІН БАРОМЕТР**

-- Сёння кепска мне, унучак,
У касцях страшэнна ломіць.
Боль дакучны мяне мучыць,
Будзе заўтра дождж, вядома.

-- Трэба лекара наведаць,
Хай прапіша добры сродак.
На экскурсію я еду
І павінна быць пагода!

**КУРЫЦА-ДРАПЕЖНІЦА**

Настаўнік запытаў Міколу:
-- Ці неадкладна ты гатоў
Назваць драпежную жывёлу
Сярод знаёмых нам звяроў?

-- Дык гэта курыца, вядома,
Горшай драпежніцы няма!
Яна ж дзярэ ўсё каля дому
І адвучыць яе дарма!

**ГЛОБУС**

-- На свеце штораз менш сакрэтаў,
Збылося мноства людскіх мар.
Ты доказ мне падай на гэта,
Што заўжды круглы зямны шар.

-- Не трэба тут вялікай спробы,
Каб гэту ісціну адкрыць.
Найлепшым доказам ёсць глобус,
Што вось на століку стаіць.

**КОЛЯ БАІЦЦА БОЛЮ**

Маланкава ў аптэку
Пабег уранку Коля,
І там ён просіць лекі
На суцішэнне болю.

-- А што баліць, дзіцятка?
-- Дык буду мець крамолу!
Пайшоў мой грозны татка
На сход бацькоўскі ў школу!



*Першы дзень у школе (Ласінка).* **Фота М. Лукшы**

## НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА

**20 верасня -- 90 гадоў з дня нараджэння (1903 г.) Наталлі Арсенневай, беларускай паэткі.**

Паэтычнае імя Наталлі Арсенневай, доўгія гады адарванай ад Бацькаўшчыны, усё больш пачынае вабіць суайчыннікаў. Яна была вучаніцай Віленскай беларускай гімназіі, калі ў 1920 годзе яе талент заўважыў і падтрымаў тады настаўнік роднай мовы і літаратуры Максім Гарэцкі. А неўзабаве, у 1927 годзе, убачыла свет яе першая паэтычная кніга "Пад сінім небам", якая была прыхільна ацэнена крытыкай. Варункі лёсу Н. Арсенневай склаліся так, што пасля верасня 1939 года яна была арыштавана энкавэдзістамі і выслана ў Казахстан. Вызваліла яе з ссылкі заступніцтва Янкі Купалы. Вярнулася на Беларусь. Тут, у Менску, напаткала яе нямецка-фашысцкая акупацыя. Супрацоўніцтва ў "Беларускай газэце", дазволенай пры немцах, змусіла Н. Арсенневу да эміграцыі.

Ранняя лірыка Наталлі Арсенневай прыродаапісальная, інтымная, насычаная яркімі вобразамі. Яна майстар дасканалага настраёвага паэтычнага пейзажа:

*Як не любіць мне восень залатую,*
*Калі праз вопратку асін густую*
*Тон прабіваецца чырвоны, слаўны тон,*
*І ў золаце стаіць маўклівы, пышны клён?*
*(З верша "Восень")*

Кніга паэзіі "Сёння", якую склалі вершы, напісаныя Н. Арсенневай у акупацыйным Менску, паказала, што талент паэткі развіваўся ў бок філасофскага гуманістычнага асэнсавання гістарычных падзей, што ў ім узмацняліся грамадзянскія трагічна афарбаваныя ноты. Вайна ўспрымалася паэткай як вялікая трагедыя народаў, зруйнаваны, пакрыты папялішчамі свет выклікаў адчай і адчуванне ўласнага бяссілля (*"За ўсіх чыста, за ўсё не наплачацца нават паэт"*). Побач з тэмай асуджэння вайны, смутку сярод руінаў і ахвяр, "жыцця ў жалобнай раме" ў кнізе прысутнічала нацыянальна-патрыятычная тэма Бацькаўшчыны. У вершах "Песня каліноўцаў", "Жыве Беларусь" і іншых выказвалася ідэя вольнасці Беларусі і шчырая вера ў той момант, калі плён з беларускіх ніў будуць збіраць не чужынцы. У творчасці эміграцыйнага часу матывы нацыянальныя, гісторыка-патрыятычныя паглыбляюцца, набываюць настальгічную афарбоўку. Само імя Беларусі для паэткі, аддзеленай ад Бацькаўшчыны геаграфічна і палітычна, становіцца *"пякучым сымболем болю"*. Эміграцыя ўспрымаецца як выпрабаванне, як крыніца адвечнага смутку:

*І нас няветлы лёс ад*
*Бацькаўшчыны мілай*
*Размёў па свеце сёння, як лісцё.*
*Тут, на чужацкіх кручах і пахілах,*
*Мой бел-чырвона-белы сцяг -- усё.*

*(З верша "Зняважаным сцягом")*

**ІРЫНА БАГДАНОВІЧ**

## ВЯСЁЛЫ ВЕТРЫК

Надыходзіць зіма. Мароз шкліць рэкі і азёры, скоўвае зямлю, а нам загадвае цёпла апранацца. Ціха і павольна падае белы пушысты снег.

А ці ведаеце вы, сябры, чаму падае снег і адкуль ён бярэцца?

Не? Ну, тады паслухайце.

Жылі калісьці на свеце тры вятры: тата, мама і сын.

Тата быў самы моцны. Ён сябраваў з маланкамі і громам, узнімаў буры і тапіў караблі, зрываў дахі дамоў, ламаў дрэвы і дзіка гудзеў у комінах. Гэта быў страшны вецер, і ўсе яго баяліся.

Мама была лагодная. Яна не тапіла караблёў, а, наадварот, напінала ветразі, круціла ветракі, а ўвосень любіла танцаваць з апалым лісцем.

Толькі маленькі Ветрык-сын як быццам нічога не рабіў. І ўсе думалі, што ён -- гультай. Але гэта толькі здавалася. Ветрыку ўсё хацелася рабіць, ды не хапала сілы, каб падняць буру ці прымусіць круціцца ветракі. Дарослыя не баяліся Ветрыка. Толькі зрэдку бурчалі, калі даводзілася падымаць з зямлі сарваны капялюш.

Затое дзеці вельмі яго любілі. Гэта для іх Ветрык гуляў з флюгерамі на дахах дамоў, круціў драўляныя прапелеры, а самай цікавай была гульня з папяровымі змеямі.

Праходзіла лета, мінала восень. На дварэ станавілася халодна і няўтульна, і дзеці амаль не выходзілі з хат. Ветрыку рабілася сумна -- не было з кім гуляць. Ён дзьмуў у коміны, як Вецер-тата, але замест гуду атрымліваўся пранізлівы свіст. Тады ён пачынаў гуляць з апалым лісцем, як Вецер-мама, але гэта хутка надакучала. І рашыў Ветрык выправіцца ў падарожжа.

Доўга-доўга ляцеў ён па бязмежнай прасторы і раптам убачыў горы, а на іх вяршалінах -- белыя капелюшы.

Як вы здагадаліся, сябры, гэта быў снег.

Доўга гуляў Ветрык са снегам: атрасаў яго з елак і сосен, зноў абсыпаў іх з камля да вяршаліны. Белым віхрам кідаўся з кручы, пакуль не змарыўся. І тады, сеўшы адпачываць, ён успомніў пра дзяцей, якія не гулялі на дварэ, а хаваліся ў хатах ад марозу.

Ветрык быў зусім малы, але набраў у свае кішэні столькі снегу, што ледзьве падняўся з зямлі. Прыляцеў дадому, пачаў выварочваць кішэні, вытрасаць снег на зямлю.

Спачатку снег падаў павольна, пакрываў зямлю белай коўдрай. А потым заскакаў, закружыўся ў паветры. На вуліцу з шумам і смехам высыпалі дзеці -- яны пазналі свайго Ветрыка. І пачалася вясёлая гульня.

Цяпер кожную зіму Ветрык лётае да белых гор, набірае поўныя кішэні снегу і нясе яго дзецям. Яму вельмі падабаецца, калі гуляюць са снегам. Тады і яму весела.

**СЯРГЕЙ ТАРАСАЎ**

<u>*БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ*</u>

## БАРАДА

Гуляюць звычайна дзеці на двары. Чым болей дзяцей прымае ўдзел у гульні, тым весялей яна праходзіць. З ліку ўдзельнікаў выбіраюць бараду. Гэты ігрок павінен лавіць усіх. Прызначаюць пэўнае месца, дзе барада не ловіць. Гэта дом. Дзеці з крыкам разбягаюцца, а барада ловіць. Каго зловіць, той памагае барадзе лавіць нязлоўленых.

Калі ж гуляць даводзіцца ў хаце, дзе мала месца, тады барадзе завязваюць хусткай рукі назад. Барада стараецца схапіць каго-небудзь завязанымі рукамі.

У час гульні іншы раз барадой становіцца той, каго ранейшы барада першым ударыць.

У гэтай гульні дзецям трэба ўвесь час звяртаць увагу, хто ў кожны момант барада, бо ролі мяняюцца хутка. Гэта робіць гульню цікавейшай. Дзеці бегаюць беспераструнку.

*ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ*

## СКОРАГАВОРКІ

### ВОКА АБІБОКА

Белыя аблокі
Падплывалі збоку,
Адбіліся глыбока
У азёрным воку,
Не былі аблокі
Ў воку абібока.

### ВЯТРАМІ ПАДШЫТЫ

Дажджамі пакрыты,
Вятрамі падшыты
У грака пінжак.
Крычыць на грачыху,
Грачыху-краўчыху
Прастуджаны грак.

### КРОПЛЯ З КРОПЛЯЙ

Кропля з кропляй размаўляе,
Кропля кроплю паганяе:
-- Ты скачы праз плот,
Абмінай асот!
Прагнуць працы буракі,
Кроп, і рэпа, і гуркі!

### ЛЯНІВЫ-САНЛІВЫ

Лянівы санліваму кажа: -- Не позна.
Санлівы ляніваму кажа: -- Марозна!
Лянівы санліваму: -- Дзе мае ноты?
Санлівы ляніваму: -- Эй, ты лянота!
Санлівы-лянівы,
Лянівы-санлівы!

### ЧАПЯЛА І ЧАПЛЯ

Чапяла з хаты ўцякла, раскрычалася,
Чапяла да чаплі чаплялася:
-- Чаму, чапля,
ногі доўгія ты маеш?
Чаму, чапля, па балоце ты блукаеш?
Але чапля смяяцца пачала:
-- Чапу-ляпу, чапу-ляпу,
Пешаходаў не чапай, чапяла!

### ХВАЛІЛАСЯ КАША

Аржаная каша сама сябе хваліць,
Прасяная каша сама сябе хваліць.
Якая ж каша слушна кажа?
Хто адкажа?
-- Я! -- сказаў Яша --
Прагнала мой кашаль
Аўсяная каша!

**ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ**

## НАВУКА АБ СТАРАЖЫТНАСЦІ

Археалогія -- навука, якая вывучае гісторыю грамадства па матэрыяльных рэштках жыццядзейнасці людзей. Тэрмін "археалогія" ўпершыню быў ужыты Платонам (V-IV ст. да н.э.) у значэнні "навука аб старажытнасці" Як навука археалогія зарадзілася ў XVIII -- пачатку XIX стагоддзяў. Пачынальнікамі беларускай археалогіі былі Зарыян Далэнга-Хадакоўскі, Адам Кіркор, Тэадор Нарбут, Яўстафій Тышкевіч, Уладзімір Завітневіч, Еўдакім Раманаў і іншыя.

У XIX стагоддзі ў асноўным вяліся раскопкі курганоў і складаліся археалагічныя карты. У 20-х гадах нашага стагоддзя пачалі вывучацца помнікі каменнага і жалезнага вякоў (стаянкі, гарадзішчы).

Сучасную археалогію падраздзяляюць на палявую, тэарэтычную, археалогію архітэктуры, падводную архітэктуру і іншыя. Сярод археалагічных помнікаў у Беларусі вылучаюцца паселішчы (стаянкі, селішчы, гарадзішчы), пахаванні (курганы, каменныя магілы, грунтовыя магілы) і культавыя месцы (свяцілішчы, камяні).

У народзе стаянкі вядомы пад назвамі Горка, Бугор; селішчы -- Селішча, Стараселле, Старое Сяло; гарадзішчы -- Гарадок, Гарадзішча, Замак, Замкавая Гара, Дзявочая Гара, Чорная Гара, Французская Гара, Шведская Гара, Татарская Гара, Царкавішча, Акоп, Батарэя, Груда і інш. З гарадзішчамі звязаны паданні аб закапаных скарбах, аб царкве ці горадзе, што праваліліся пад зямлю, аб насыпанні гарадзішча ботамі або шапкамі. Курганы вядомы пад назвамі Валатоўкі, Капцы, Курганы, Французскія ці Шведскія магілы, Княгінкі, Дубішча, Гусліншчы, Балваны і г.д. З курганамі звязаны паданні аб пахаваннях ваяроў-асілкаў, месцах барацьбы з ворагамі (французамі, шведамі, татарамі), аб сустрэчы вяселляў і боек паміж імі. Грунтовыя і каменныя магілы вядомы як Старыя Клады, Могліцы, Халернік, Паганскія Магілы, Плітніца. Месцы адпраўлення паганскіх культаў носяць назвы Лысая Гара, Святая Гара, Залатая Гара, а культавыя валуны -- Святы Камень, Божы Камень, Божы Слядок, Даждзьбог, Кравец, Сцяпан, Мядзведзь.

Ці такія месцы ёсць у вашай ваколіцы? Напішыце.

**ЛЮДМІЛА ДУЧЫЦ**

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

-- Я ўчора два разы дастаў ад бацькі папругай.
-- За што? -- пытаюцца сябры.
-- Першы раз, калі я паказаў тату дзённічак. А другі раз, калі тата зразумеў, што гэта яго школьны дзённічак.

* * *

-- Што б ты зрабіў, калі б табе далі пяць бульбін і сказалі падзяліць іх на шэсць чалавек?
-- Зрабіў бы таўканіцу.

* * *

-- Адкуль ты нясеш столькі гразі на чаравіках? На дварэ ж сонейка, суха?
-- Мамачка, трэба ведаць, дзе шукаць!

* * *

Малы хлопчык пайшоў з татам у заалагічны сад. Там ён убачыў аленя і радасна закрычаў:
-- Тата, тата, глядзі, гэты алень носіць на галаве такую ж вешалку, якая вісіць у нас у калідоры!

Запісаў **ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**



*Я кірую!* **Фота М. Лукшы**

*МІРА ЛУКША*

## КАЛЫХАНКА

Ходзіць Бай па гаю,
У яго кішэнях -- мак.
Макам пасыпае
І спявае так:
Ходзіць Бай па гаю,
У яго кішэнях -- мак.
Макам пасыпае
І спявае так:
Ходзіць Бай па гаю,
У яго кішэнях -- мак.
Макам пасыпае
І спявае так:
Ходзіць Бай па гаю,
У яго кішэнях мак...

*ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ*

## ГАРМОНІК

Ён вучыўся ў леса,
нівы,
У крынічак і ў лядзей
Любіць родныя матывы
Мой гармонік-чарадзей.

Травам ціха адгукнецца,
Забушуе ў такт вятрам,
І смуткуе,
і смяецца,
Блізкі сэрцу і рукам.

Мех расцягваю,
сціскаю --
Загудзеў зялёны бор!
Вам іграць дапамагаю,
Сосны, елкі і чабор...

Як зайграю польку "Янку" --
Скокі, смех, вясёлы крык.
-- А цяпер зайграй "Зямлянку", --
Просіць дзед мой франтавік.

І зажурыцца, прыціхне
Ён пад музыку басоў.
І цыгарка ярка ўспыхне,
Як агеньчык тых часоў...

Гляне ён, памаладзелы:
-- Старадаўні вальс давай! --
І плыве ў бярозках белых
Залацісты, мілы край.

*ГРАФІНЯ ДЭ СЭГЮР*

## ЗАЧАРАВАНАЯ ХАТКА

**-2-**

*КАЗКА*

*(Пачатак у папярэднім нумары)*

Яны селі абедаць, але бацька еў мала, ён увесь час маўчаў і быў сумны, хоць Разалі вельмі старалася ўдаваць вясёлую. Але ўрэшце сваёй весялосцю і бесклапотнасцю ёй удалося такі супакоіць бацьку, і ён забыў пра сваё хваляванне.

Праз тры тыдні Разалі павінна было споўніцца пятнаццаць гадоў, і бацька паабяцаў ёй зрабіць на свята прыемны сюрпрыз. І вось, калі прайшло яшчэ некалькі дзён і да дня нараджэння заставалася тыдні два, бацька аднойчы ранкам прыйшоў да Разалі і сказаў:

-- Дарагое маё дзіця, я вымушаны на гадзіну ад'ехаць. Мне трэба падрыхтаваць падарунак на твой дзень нараджэння. Чакай жа мяне дома і будзь паслухмяная, не давай волі сваёй цікаўнасці. Праз два тыдні ты даведаешся пра ўсё, што табе хочацца ведаць: я ўмею чытаць твае думкі і знаю, што іх займае. Цяпер жа я з табою развітваюся і яшчэ раз прашу: сцеражыся сваёй цікаўнасці.

Прудан ласкава пацалаваў дачку і пайшоў, але выгляд у яго быў такі, быццам яму вельмі не хацелася яе пакідаць. Калі ён знік з вачэй, Разалі пабегла ў бацькаў пакой, і якая ж была ў яе радасць, калі яна ўбачыла, што ключык ад хаткі ляжыць на стале!

Яна схапіла яго і хуценька пабегла ў глыбіню саду. Калі яна была ўжо каля самае хаткі, ёй прыгадаліся бацькавы словы: "Сцеражыся сваёй цікаўнасці". Яна завагалася і была гатовая ўжо занесці ключык назад і не заходзіць у хатку, калі раптам адтуль даляцеў ціхі стогн. Яна прыпала вухам да дзвярэй і пачула, як нехта вельмі танюткім галаскам спявае:

-- Я пад замком, гаротная,
Сяджу адна, самотная,
Загіну я ў нявол,
Не выйсці мне ніколі.

"Цяпер усё ясна, -- падумала Разалі, -- там сядзіць нейкая няшчасная нябога, якую пасадзіў пад замок мой бацька".

І ціхутка пастукаўшы ў дзверы, Разалі сказала:

-- Хто вы, і што я магу дзеля вас зрабіць?

-- Адамкніце мяне, Разалі. Злітуйцеся, адамкніце.

-- Але чаму вас пасадзілі пад замок? Ці не ўчынілі вы якога злодзейства?

-- Што вы, не-не, Разалі. Мяне трымае тут адзін чарадзей. І калі вы мяне ўратуеце, я ў падзяку за гэта раскажу вам пра сябе ўсю праўду.

Усе ваганні ў Разалі зніклі, і цікаўнасць перамагла яе паслухмянасць, і яна ўсунула ключык у замок... Але рукі ў яе так дрыжалі, што яна не магла адчыніць дзверы. Яна была гатовая ўжо ўсё кінуць, калі танюткі галасок сказаў:

-- Разалі, тое, што я вам раскажу, навучыць вас вельмі многаму і такому, што вас вельмі цікавіць; ваш бацька зусім не такі, якім ён здаецца.

Пачуўшы гэта, Разалі з астатняе сілы налегла на ключык. Ключык павярнуўся, і дзверы адчыніліся.

*(Працяг у наступным нумары)*

## АДГАДАНКА



*Адшукай чатыры розніцы ў гэтых малюнках.*

## БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

*Тэхнічная апаратура на паштамце ў Беластоку не зарэгістравала факса з праграмай на 20.09.1993 г. Чытачоў „Нівы" шчыра перапрашаем, што праграму пачынаем з аўторка.*

**Рэдакцыя**

### АЎТОРАК, 21 ВЕРАСНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Зноў чую голас твой". Фільм канцэрт. 8.00 Тэлебачанне — школе. У свеце казкі. 8.25 „Цётка Маруся" — бел. фільм. 1 і 2 серыі. 10.55 „Казкі Гофмана". Фільм-балет. 11.20 „Канва жыцця". Навукова-папулярны фільм. 12.30 Навіны. 12.40 Музычны фільм. 13.30 „Доктар, зрабіце мяне прыгожай". Тэлевізійны дакументальны фільм. 13.50 „Вынаходка". Мультфільм. 13.55 „Сэр". Мастацкі фільм. 15.10 Сізбартом. 16.10 Тэлебачанне — школе. Выяўленчае мастацтва. 3-ці клас. Выразныя сродкі жывапісу. 16.30 Навіны. 16.40 „Партрэт каханай жанчыны". Тэлевізійны дак. фільм. 17.20 Тэлевізійная дошка аб'яў. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Віцебск). 18.10 Сустрэча з С. Шушкевічам. Прамая лінія. 19.15 Студыя „Летапіс" прадстаўляе дак. фільм „Адраджэнне". 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Дзяжурная аптэка". Тэлесерыял. 21.15 Запрашаем на вячоркі.Фальклорныя калектывы Светлагорскага раёна. 21.55 НІКа. 22.10 „З днём нараджэння". Адкрыццё Беларускага тэатра песні.

### СЕРАДА, 22 ВЕРАСНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 пад купалам Сусвету. 7.25 Фільм-канцэрт. 8.00 Тэлебачанне школе. Выяўленчае мастацтва 3-ці клас. 8.15 „Дзяжурная аптэка". Тэлесерыял. 8.45 „Дарагая Памела". Фільм-спектакль. 11.15 Мультфільм. 12.30 Навіны. 12.40 „Гісторыя Ясі Клячынай, якая кахала, ды не выйшла замуж". Фільм. 14.15 „Сонечны зайчык". Мультфільм. 14.30 „Асаблівы выпадак". Перадача для падлеткаў і бацькоў. 15.00 Відзьма-нявідзьма. Навіны кіна-відэааўдыё. 16.00 „Чатыры маналогі пра Аркадзя Рудэрмана". 16.30 Навіны. 16.40 „Пяць дзён і адзін вечар". Дакументальны фільм. 17.15 Навіны Бі-Бі-Сі. 17.45 Абласныя навіны (Гомель). 17.55 Абласныя навіны (Гомель). 17.55 „Гадзіннік спыніўся апоўначы". Мастацкі фільм. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыі. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Дзяжурная аптэка". Тэлесерыял. 21.15 „Зоркі" на экране. „Назад, у СССР". Фільм. 22.45 НІКа. 23.05 Музычная праграма.

### ЧАЦВЕР, 23 ВЕРАСНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Гімназісты". Дак. фільм. 8.15 „Дзяжурная аптэка". Тэлесерыял. 8.45 Музычная праграма. 9.15 Вецер вандраванняў. 10.15 „Асеннія ранішнікі". Фільм. 12.30 Навіны. 12.40 „Урок". Мультфільм. 13.00 „Дом Бернарды Альбы". Фільм. 14.35 „Надзея-экспрэс 2". Акцыя амерыканскай гуманітарнай арганізацыі. 15.55 Тэлебачанне — школе. Гісторыя. 11-ы клас. Пачатак Вялікайи айчыннай вайны на Беларусі. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 Навукова-папяпулярныя фільмы. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Гродна). 18.10 Зачытайце маё пісьмо... 18.15 Здароўе. Тэлечасопіс. 18.45 Пазіцыя ўрада: актуальнае інтэрв'ю. 19.00 „Слова". Выступленне паэта Сяргея Грахоўскага. 19.35 Кантакт. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Дзяжурная аптэка". Тэлесерыял. 21.15 Творчае маладзёжнае аб'яднанне „Крок". Студыя „Формула". 22.40 НІКа.

### ПЯТНІЦА, 24 ВЕРАСНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Сільфіда". Фільм-балет. 8.00 Тэлебачанне — школе. Гісторыя 11-ы клас. Пачатак Вялікай айчыннай вайны на Беларусі. 8.30 „Дзяжурная аптэка". Тэлесерыял. 9.00 „Калыска гойдаецца еад безданню". Дак. фільм. 10.00 „Крылатае асляня". Мультфільм. 10.10 Ён, яна і дзеці". Мастацкі фільм. 11.25 Шматгалоссе. Гісторыя, культура, быт народаў Беларусі. 12.15 Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю. 12.30 Навіны. 12.40 „Маналог пра каханне". Фільм-канцэрт. 13.55 „Апошняя ноч". Мастацкі фільм (Румынія). 15.40 А. Петрашкевіч. „Дагарэла свечачка да палічкі". Спектакль Гомельскага тэатра. 17.20 Тэлевізійная дошка аб'яў. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Магілёў). 18.10 „Лявоны". Фільм-канцэрт. 18.40 „Вобраз". Літаратурны тэлечасопіс. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыі. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусету. 20.45 Стоп-кадр. Крымінальная хроніка. 21.05 „Дзве стралы". Мастацкі фільм. 22.40 НІКа.

### СУБОТА, 25 ВЕРАСНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Дзве стралы". Фільм. 9.00 Паказвае Віцебск. „Дзвіна" — літаратурна-мастацкая праграма. 10.00 Тыдзень планеты. Міжнародны агляд. 10.15 Урокі здароўя. 10.45 Нататкі на памяць.Пабрацімскія сувязі Гомеля і Клерман-Ферана. 11.35 Дзівосны свет. 12.00 Мультфільмы. 12.15 Хрысціянская праграма. 12.45 Дж. Пучыні. „Чыо-Чыо-Сан". Спектакль Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Беларусі. 15.00 Творчае маладзёжнае аб'яднанне „Крок" прадстаўляе: „Ісціна з першых рук". 15.40 Для школьнікаў. Музычная скарбонка. 16.30 Футбольны агляд. 17.15 Нов & К-топ-10. 18.15 Чэмпіянат Беларусі па міні-футболу. 19.30 „Жаба-царэўна". Мультфільм для дарослых. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.50 „Калі ты дзе-небудзь ёсць". Фільм (Польшча). 22.35 НІКа.

### НЯДЗЕЛЯ, 26 ВЕРАСНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 Слова да чалавека — пропаведзь. 7.55 „Зоркі" на экране. „Назад, у СССР". Фільм. 9.25 ТА „Рэха". Сацыяльныя правы: міфы і рэальнасць. 10.25 Л. Гаўрылкін. „Хвост паўліна". Тэлевізійны спектакль. 12.00 Чэмпіянат Беларусі па міні-футболу. 13.15 „На крылах кажана". Пазнавальна-забаўляльная гульня для старшакласнікаў. 14.15 Творчае маладзёжнае аб'яднанне „Крок" прадстаўляе: „Запчасткі для душы. 15.00 Гандбол. Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў. 16.30 Мультфільмы. 16.55 „За двума зайцамі". Мастацкі фільм. 18.10 Існасць. Духоўна-рэлігійная праграма. 19.00 Панарама. 19.35 Пад купалам Сусвету. 19.40 Калыханка. 20.05 „Пудзіла". Фільм (ЗША). 21.55 „Каскад". Кантакт, інфармацыя, рэклама. 22.10 Відзьма-нявідзьма. Навіны кіна-відэа-аўдыё.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне!

Прысніўся мне такі сон: быццам мы былі ў Канадзе і едзем цяпер дадому на нейкай яхце. Унутры падобна да міжнароднага аўтобуса, я сяджу побач з малой дзяўчынкай, быццам маёй дачкой (у сапраўднасці дзяцей у мяне няма). Дзяўчынка ўсё марудзіць, хоча спаць, то зноў апранаецца. Потым мы выходзім на нейкі вакзал. Трэба нам падацца ў бок вёскі, якая называецца Рудня (я ніколі там не была). Зараз жа за вакзалам пачынаецца сенажаць. Луг вельмі гразкі. Людзі збіраюць копы сена, зграбаюць яго, пагружаюць на фуры. Бачу — там мая цётка. Нам трэба дапамагчы сваякам збіраць сена, але трэба і дадому. Мы ў святочнай вопратцы, але бярэмся за сена. Я скінула боты, босая, гляджу і быццам амаль голая. Дзяўчынка недзе знікла, і не бачу нашага багажу. Грабу гэтае сена, а працуецца вельмі цяжка. У гэты момант я прачнулася.

**Ніна**

Ніна! Сон твой цікавы. І хутчэй за ўсё абазначае добрае. Па-першае, ты вярталася з-за граніцы, і гэта ўжо абазначала б перамену на лепшае. Ты ехала на нейкай яхце, ды не адна, з табой была маленькая дзяўчынка. А гэта абазначала б шчаслівае сямейнае жыццё. Лодка вашая, можна сказаць, прычаліла да берага, бо ж вы выйшлі з гэтай яхты на нейкім вакзале. А калі прычаліла — значыць, дасягнеш поспеху і дабрабыту. Лодка можа абазначаць і кепскае (бачыць лодку без пасажыраў — сумнае адзіноцтва; быць адному ў лодцы — страта блізкага прыяцеля; перакуліцца з лодкай у ваду — вялікае няшчасце ці выпадковая смерць), аднак жа ў тваім сне лодка абазначала толькі добрае.

А найбольш істотным у тваім сне была ўборка сена. Сена наогул абазначае поспех у справах, валоданне гаспадаркай, буйны прыбытак. І хаця луг быў вельмі гразкі і давялося табе скінуць боты і распранущца, ды і працавала ты вельмі цяжка, прыбытку можаш спадзявацца. Не выключана, што пры гэтым давядзецца табе нахадзіцца і будуць нейкія бруды.

**АСТРОН**

## КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

### ПУДЫНГ З МАСЛЯКОЎ

Прадукты:
*30 дэкаў маслякоў,*
*некалькі лустаў чэрствай булкі,*
*1 шклянка малака,*
*10 дэкаў мукі,*
*5 дэкаў масла ці маргарыну,*
*5 дэкаў цертага жоўтага сыру,*
*2 яйкі,*
*соль.*

Грыбы зварыць у пасоленай вадзе, адцадзіць, дробна пасячы ці прапусціць праз мясарубку, расцерці з жаўткамі. Булку заліць кіпячым малаком, а калі размокне і астыне, расцерці з малаком так, каб атрымалася гладкая маса. Да гэтай масы дадаць масла, грыбы, соль і іншыя прыправы па смаку, муку і церты сыр. Маса павінна мець гушчыню добрай смятаны. Збіць цвёрдую пену з жаўткоў, асцярожна перамяшаць з падрыхтаванай масай. Пудынг палажыць у форму, змазаную тлушчам. Запячы ў сярэдне гарачай духоўцы.

Падаючы, паліць растопленым маслам.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ВАРТА ВЕДАЦЬ

*

Каб у пакоі быў прыемны пах, наліце некалькі кропель духоў або адэкалону на незапаленую электрычную лямпачку. Варта ўключыць яе і па пакоі разнясецца прыемны пах.

*

Калі ў вазоне з кветкамі з'явіліся чарвякі, пакладзіце туды гнілыя яблыкі, і ўсе яны хутка перапаўзуць у гэту пастку.

*

Калі на паліраванай мэблі ўтварылася белая пляма ад выпадковага дакранання гарачым прасам або чайнікам, — выкарыстайце сумесь спірту з алеем. Церці трэба чыстай шарсцяной анучкай кругападобнымі рухамі, пакуль пляма не знікне.

*

Каб знішчыць пах нафталіну або іншых рэчываў, якія ўжываюцца супраць молі, насыпце на газету сухой гарчыцы і пакладзіце ў шафу, дзе захоўваецца адзенне.

**(ця)**

### ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 1. маскоўскі князь Іван I, 3. Барыс, былы чэмпіён свету па шахматах, 5. выдаткі, 7. над зямлёю, 9. парыжская рака, 10. ніжні слой атмасферы, 11. чорная пеўчая птушка, 12 сталіца Бангладэш, 14. архітэктурны стыль XVIII ст., 16. яд, 17. дамашняя жывёла.

**Вертыкальна:** 1. прызнанне да памылкі, віны, 2. вага ўпакоўкі, 3. напр. дно, 4. горад на поўначы Швецыі, 6. фармальныя веды, адарваныя ад жыцця, 8. парабак, 9. крывіцца на пятніцу, 11. расліна з сакавітым лісцем, 13. асобная расліна, 14. частка доўгу, 15. какаінавы куст.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 31 н-ра:**

**Гарызантальна:** труп, пажар, абарог, ясыр, вянок, аполак, кавардак, Макар, аблівaxa, Караліна, ураса, авантура, снарад, апора, курд, Панама, Грант, заяц.

**Вертыкальна:** паляна, валока, рэстаран, парад, каток, колас, каралева, палітура, мука, курс, лава, сала, бактэрыя, рапіра, струна, янтар, Арпад, адказ.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае Лукаш Пацэвіч з Беластока.


# Ніва

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1994 r. upływa 20 listopada 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką do końca br. wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł., a od 1.01.1994 r. — odpowiednio 7000 zł. i 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*АМБРОЗ БІРС*

## СА „СЛОЎНІКА Д'ЯБЛА"

**Покер** — картачная гульня, мэты якой аўтару невядомы.

**Порт** — месца, дзе караблі хаваюцца ад шторму на моры, каб трапіць пад навальніцу мытні.

**Празорца** — чалавек, звычайна жанчына, якая мае здольнасць бачыць тое, чаго не бачыць яе шэф. А менавіта тое, што ён абсалютны дурань.

**Праўдзівы** — тупы і неадукаваны (пра чалавека).

**Праца** — адзін з працэсаў, з дапамогай якога А авалодвае ўласнасцю Б.

**Прывід** — бачная выява нябачнага, схаванага страху.

**Прыгажосць** — моц, з дапамогай якой жанчына зачароўвае каханка і запалохвае мужа.

**Прынада** — рэч, якая робіць кручок больш прывабным для ахвяры. Найлепшая прынада — прыгажосць.

**Прэрагатыва** — права манарха ўчыняць бясправе.

**Пхаць** — адно з папулярных дзеянняў для дасягнення поспеху, асабліва ў палітыцы. Другім такім дзеяннем з'яўляецца „цягнуць".

**Пяро** — інструмент катавання. Даецца яно гуссю і ўжываецца аслом. Цяпер пяро амаль не ўжываецца, але яго сучасны эквівалент — асадку — трымае той самы асёл.

*З англійскай пераклаў Алесь Кудраўцаў*

# НІЎКА




*Малюнак Я. Бусла*

## МІЖ НАМІ

— Цяпер мець машыну — не надта вялікая радасць. І падатак за яе плаці, і за карыстанне дарогамі — усё гэта з кожным годам большае і большае... Цікава, што будзе, калі людзі адмовяцца ад самаходаў і пачнуць ездзіць роварамі ды хадзіць пешшу?

— Тое ж самае. Увядуць падатак на пешаходаў і на ровары.

* * *

— Чаму гэта ваш сын не бярэцца шлюбам? — пытаецца ў суседа Ярак.

— Разумееш, — адказвае той, — вось ты, напрыклад, узяў прыгожую жонку. Мы таксама хацелі мець дома, прынамсі, не горшую. Усю ваколіцу аб'ехалі, але прыгажэйшай так і не знайшлі...

* * *

— Пабач, як нястомна танцуе твой сын, — кажа на другі дзень вяселля дзядзька Мікіта дзядзьку Рыгору, — каб сказалі яму пайсці сена складаць, то адразу ж страціў бы гэты спрыт.

— Вядома, — адказвае той, — танцаваць жа куды лягчэй!..

* * *

Прыехаў адзін хлопец у сваты. Бацька дзяўчыны, захацеўшы дазнацца, што ён умее, пачынае такую гаворку:

— Кажуць, што ты сваім бацькам па гаспадарцы не дапамагаеш, толькі ездзіш па харчы ды па грошы. Ці праўда гэта?

— Ай, — махнуў рукой хлопец, — то нявартая тэма для сватаўства.

— Кажуць, што ты кепска працуеш на сваім прадпрыемстве і што неўзабаве цябе могуць звольніць за недысцыплінаванасць, — зноў кажа бацька дзяўчыны.

— Ай, — махнуў рукой хлопец, — то нявартая тэма для сватаўства.

— А яшчэ кажуць, што ты зусім не ўмееш піць гарэлку і не любіш танцаваць...

— Хто гэта пра мяне такія плёткі пускае? Ды я яму морду наб'ю! — абурыўся хлопец.

**АЎРОРА**

## ТОСТЫ

Сябравалі хлопец з дзяўчынай. Аднойчы хлопец запрапанаваў дзяўчыне выйсці за яго замуж. Дзяўчына згадзілася, але толькі з адной умовай:

— Я буду адзін раз у год пакідаць цябе на адзін дзень.

Хлопец падумаў і згадзіўся.

Неўзабаве яны пажаніліся і жылі шчасліва. Адзін раз у год жонка пакідала яго на адзін дзень. Муж пачаткова не звяртаў на гэта ўвагі, але потым, аднак, цікаўнасць перамагла яго.

І вось прыйшоў дзень, калі жонка пакінула яго. Муж пачаў сачыць за ёю: і бачыць, як жонка ідзе ў лес, ператвараецца ў змяю і пачынае сыкаць.

Дык давайце вып'ем за тое, каб усе жонкі сыкалі толькі раз у год і толькі ў лесе!

* * *

Самы кароткі тост: „Ху!"

## СЕНТЭНЦЫІ

Двудушнік, бы памідор даспелы заўчасна — скурка чырвоная, а мякаць зялёная.

* * *

Прысутнасць пасрэдніка перакасоўвае галізну слоў.

* * *

Аблічча дзеяння румяніцца думкай.

* * *

Дабро мае дакладна толькі зла, колькі зло дабра.

* * *

Які кровазварот, такі і румянец.

**БАРЫС РУСКО**

## ГІПНОЗ

„Усё! Больш не п'ю! — рашыў я, купіўшы білет да Беластока. — Ну што гэта за жыццё! Ад зарплаты да зарплаты ледзьве канцы з канцамі зводзіш. Атрымаеш гэтыя праклятыя „паборы", замочыш — пайшло-паехала! Хопіць! Кажуць, у ваяводстве ад алкаголю добра лечаць нейкім „гіпнозам". Паеду... Няхай гіпнатызуюць!"

Паехаў у Беласток, знайшоў лекара. Пасадзіў ён мяне ля стала і пытае, ці многа вып'ю, ці сам захацеў вылечыцца.

— Сам, — адказваю, — а хто ж больш?

— Лячэнне, ведаеце, каштуе...

— Ведаю, ведаю, — перапыніў я яго.

— Вось добра, — усміхнуўся ён, — тады пачнём.

Лекар дастаў са стала парожнюю бутэльку і паставіў на стол.

— Уявіце сабе, што гэта пляшка гарэлкі...

— Дык яна ж пустая, — запярэчыў я.

— А трэба ўявіць, што поўная.

— Не, не магу. Вось каб поўная, то магчыма...

— Ну, добра, — папраўіўшы акуляры, сказаў лекар і дастаў другую бутэльку, закрытую бляшаным коркам. Спрактыкаваным вокам я прачытаў на этыкетцы: „Паланез".

— А цяпер уяўляеце?

— Уявіць то можна, — адказаў я, — але, мабыць, там вада, колер нейкі падазроны.

Лекар глянуў на бутэльку, прыўзняў акуляры, недаверліва паглядзеў на мяне.

— Дык я ж амаль сто тысяч за яе ўбабухаў!

Ён моўчкі дастаў шклянку і наліў грамаў сто пяцьдзесят.

— Паспрабуй.

Я сквапна схапіў дрыжачай рукой шклянку і адным махам перакуліў у горла. Гэта сапраўды была добрая гарэлка, я нават па паху адчуў.

— Вада, як мае быць вада, — схлусіў я, спадзеючыся, што раптам і яшчэ нальё.

Лекар зняў акуляры, наліў гарэлкі крыху больш чым паўшклянкі і ліха — не горш за мяне — кульнуў. Прыслухаўся і задаволена пераведу дух:

— Харошая... Ты так, даражэнькі, больш нікога не пужай, бо сэрцы цяпер у людзей ненадзейныя.

„Паланез" мы дапілі, і было, як гэта заўсёды бывае, мала. Я бегаў яшчэ два разы ў краму.

Развітваючыся, мы доўга абдымаліся, як даўнія-даўнія сябры. Лекар абяцаў прыехаць да мяне ў госці і загіпнатызаваць бясплатна.

**АНАТОЛЬ КАВАЛЕЎСКІ**




*Малюнак А. Лаўроўскага*

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Мне 28 гадоў. Калі пяць гадоў таму назад я выходзіла замуж, уся сям'я паказвала на лоб, даючы гэтым самым зразумець, што я ашалела. Можа, нават і можна было здзівіцца: муж мой быў ужо разведзены і была ў яго дачка ў маім узросце. Людзі лічылі, што ён для мяне — проста дзядок, тым больш, што быў на 5 гадоў старэйшы за маю маму. Няха ж будучыня можа чакаць мяне, калі стану жонкай гэтага чалавека?!

Мама плакала, бацька і брат не прыйшлі ні на шлюб, ні на вяселле. Мне было прыкра, але я была рашучая. Няхай сабе, думалася мне, пажывем гадоў трыццаць, то і хопіць. Важна, што мы кахаем адзін другога.

У адным сэнсе я не памылілася: хаця мінула пяць гадоў, мы надалей кахаемся, як тады, калі я рашылася на гэты рызыкоўны крок. Памятаю, як сёння, той момант, калі я паявілася ў яго дырэктарскім кабінеце з нейкай просьбай. Пасля 10 мінут размовы я ведала, што мяне цягне да яго магнітам. А вочы дырэктара таксама гарэлі. Я нават не заўважыла, што ён на так многа старэйшы за мяне.

У нас ужо ёсць трохгадовы сынок. Матэрыяльна нам вядзецца вельмі добра. Мы адкрылі някепскую прыватную фірму. Фактычна вяду яе я, а мой муж (ён перайшоў ужо на пенсію), дапамагае мне. Купілі домік, маем добры нямецкі самаход. Штогод ездзім то ў горы, то на мора.

Апрача ўсяго гэтага муж мой вельмі добры чалавек. Ён гатовы азалаціць мяне, выконвае ўсе мае жаданні, даруе мне дробныя грахі (часамі люблю адарвацца ад хаты і пасядзець даўгавата з сяброўкамі, а пару разоў муж прыязджаў наваць забраць мяне, бо я крыху перабрала з гарэлкай і не была ў стане сама вярнуцца дахаты).

Я таксама адношуся да яго сардэчна, я ж ведаю, што ён старэйшы, у яго іншыя зацікаўленні і ён хутчэй за мяне стамляецца.

Аднак жа, нешта змянілася ў маёй псіхіцы. Раней я планавала вялікую сям'ю. Нават яшчэ гады тры таму назад я не ўяўляла сабе, што буду мець толькі адно дзіця. Прынамсі трое! Але цяпер бачу, што з траіма мне адной, бадай, не справіцца. Адно дык я яшчэ выхаваю.

Мінула так мала гадоў, а мой муж вельмі асунуўся. Хворы на сэрца, губы сінеюць, часамі ён проста задыхаецца. Я яго ад таго не кахаю менш, але часамі мяне агортвае проста жах. Што будзе, калі пэўнага дня ён памрэ на інфаркт і пакіне мяне з малым дзіцём?!

**Бася**

Бася! Як жа часта нашыя ўяўленні і мары пры сутыкненні з рэчаіснасцю разыходзяцца з ёю. Калі чалавек малады, ён не можа сабе ўявіць, што і ён (ці яго жонка, муж) стане калісь стары і, можа, недалужны. Калі ты выходзіла замуж, такой эвентуальнасці ты не брала пад увагу. Ты лічыла, што ён будзе жыць у здароўі да 80—90 гадоў. І сынка вашага маглі б дасканала выгадаваць. А жыццю ж не загадаеш, не пераканаеш яго, што табе патрэбны муж, а дзіцяці — бацька.

Вось таму твая маці і плакала, замест гуляць на тваім вяселлі. Проста ведала жыццё лепш. А бацьку і брата твайго хваліць няма за што. Хаця і былі супроць твайго шлюбу, павінны былі ўшанаваць рашэнне найбліжэйшай ім асобы.

**СЭРЦАЙКА**